

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

У. М. Казбярук

# СВЕТЛАЙ ВОЛІ ЗЫЧНЫ ЗВОН



У.М.Казбярук

# Светлай волі зычны звон

## Алесь Гарун

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1991

ББК 83.3 Бел 1
К 14

После долгих лет замалчивания имя и творчество Алеся Гаруна (1887—1920) возвращается к нам. Трагической была судьба писателя: в 20-летнем возрасте попав за революционную деятельность в тюрьму, а потом в Сибирь, он нашел в себе волю и силы сохранить человеческое достоинство и продолжать борьбу за лучшую долю народа, за национальные права белорусов художественным словом.
Для широкого круга читателей.

Навуковы рэдактар
кандыдат гістарычных навук А. К. Каўка

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук А. П. Грыцкевіч,
кандыдат філалагічных навук А. Л. Верабей

*На франтыспісе — партрэт А. Гаруна, змешчаны ў кнізе І. Дварчаніна «Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры» (Вільня, 1927).*

**Казбярук У. М.**
К 14 Светлай волі зычны звон: Алесь Гарун.— Мн.: Навука і тэхніка, 1991. — 63 с., [9] л. іл., партр. — (Нашы славутыя землякі).
ISBN 5-343-00646-9.
Казберук В. М. Светлой свободы звучный звон: Алесь Гарун.

Пасля доўгіх гадоў замоўчвання імя і творчасць Алеся Гаруна (1887—1920) вяртаецца да нас. Трагічны быў лёс пісьменніка: у 20-гадовым узросце трапіўшы за рэвалюцыйную дзейнасць у турму, а потым у Сібір, ён знайшоў у сабе волю і сілы захаваць чалавечую годнасць і працягваць барацьбу за лепшую долю народа, за нацыянальныя правы беларусаў мастацкім словам.
Для шырокага кола чытачоў.

К $\frac{4603020102-007}{М 316(03)-91}$ 174—90
ББК 83.3 Бел 1



ISBN 5-343-00646-9

# ПРАДМОВА

24 верасня 1988 года ў Кракаве, на Ракавіцкіх могілках, адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка на магіле аднаго з найвыдатнейшых беларускіх пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя Алеся Гаруна. Беларускія патрыёты ў Польшчы адшукалі магілу песняра, арганізавалі збор сродкаў і пабудову помніка, падрыхтавалі вялікае інтэрнацыянальнае свята беларускай культуры. На ўрачыстасць прыбылі, акрамя гаспадароў — актывістаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства, прадстаўнікі польскай грамадскасці, а таксама госці з Савецкай Беларусі і прыхільнікі беларушчыны з Англіі і нават далёкай Аўстраліі.

Сёння ўспрымаецца паталагічнай недарэчнасцю тое, што імя Алеся Гаруна амаль шэсць дзесяцігоддзяў няшчадна выкрэслівалася з гісторыі нашай літаратуры, выкрэслівалася беспадстаўна, з нейкай бязмежнай упартасцю і тупасцю.

Пагром адроджанай беларускай культуры, які пачаўся ў канцы 20-х гадоў, паклаў канец ленінскай нацыянальнай палітыцы, накіраванай на ўсямернае — гарманічнае і раўнапраўнае — развіццё ўсіх нацый і народнасцей Краіны Саветаў.

У 30-я гады катаклізм небывалай разбуральнай сілы абрынуўся на беларускія нацыянальныя кадры, знішчаючы тых, хто ў драматычным, супярэчлівым віры грамадзянскай вайны не адразу паверыў савецкай уладзе, але потым назаўсёды звязаў свой лёс з Савецкай Беларуссю, аддаючы ёй усе свае сілы і веды (Язэп Лёсік, Браніслаў Тарашкевіч, Вацлаў Ластоўскі — колькасці іх дакладна ніхто не ведае) — іх забівалі з вераломствам і садызмам, як быццам пераняты мі ад сярэдневяковых інквізітараў. Навіс меч і над Янкам Купалам, які

паспрабаваў пакончыць жыццё самагубствам, каб пазбавіцца ад праследаванняў і здзекаў.

Лёс нявінна асуджаных падзялілі і тыя, хто ў перыяд грамадзянскай вайны змагаўся за ідэі Кастрычніка, ствараў Беларускую савецкую дзяржаву. Адным з першых загінуў Усевалад Ігнатоўскі, прэзідэнт Акадэміі навук БССР, а потым прыйшла чарга на Цішку Гартнага (З. Жылуновіча), Аляксандра Чарвякова ды і на ўсіх іх братоў па зброі і барацьбе. Пагром беларускага адраджэння на працягу многіх дзесяцігоддзяў тармазіў і дэфармаваў развіццё нацыянальнай культуры, бязлітасна глушыў гістарычную памяць народа. Сталінская інквізіцыя губіла жывых і выкарчоўвала памяць пра найбольш заслужаных дзеячаў мінулага. У іх ліку і пра Алеся Гаруна. Рабілася ўсё, каб назаўсёды выкрасліць імя пісьменніка з гісторыі нашай літаратуры, з памяці народа. Але дарэмнымі аказаліся такія намаганні.

Сёння Алесь Гарун вяртаецца да нас са сваімі творамі — небывала мілагучнымі і ў той жа час непахісна патрыятычнымі, свабодалюбівымі, вяртаецца з непадкупна праўдзівым словам пра свой народ і пра эпоху.

# «КРАЙ ЧУЖЫ — ЗА ВЕРУ КАРА»

*Першыя крокі Алеся-«недалеткі» * Шлях у рэвалюцыю * Трывожная ноч 4 сакавіка 1907 года * Спрадвечнае і заўсёды новае: быць ці не быць? * Пасля мінскіх вучылішчаў — сібірскія «універсітэты» * Арыенціры і маякі*

Алесь Гарун — пісьменнік незвычайна трагічнага чалавечага і творчага лёсу. Усяго 33 гады пражыў ён на свеце. Толькі ці можна сказаць так, як мы сёння звычайна гаворым: «пражыў»? 10 гадоў адабралі ў яго турма і пасяленне ў Сібіры. А гэта не той лёс, які мы называем такім натуральным словам «жыццё». Дый пасля Сібіры заставалася ў яго менш чым тры гады пакутлівага існавання чалавека, хворага на сухоты,— ад верасня 1917 года, калі ён, вызвалены Лютаўскай рэвалюцыяй, вярнуўся ў Мінск, да ліпеня 1920 года, калі абарвалася яго жыццё.

Асноўнай крыніцай звестак пра жыццёвы шлях Алеся Гаруна з'яўляецца «Гісторыя беларускае літаратуры» Максіма Гарэцкага. Розныя дапаўненні і ўдакладненні можна знайсці ва ўспамінах сучаснікаў, а таксама ў судовай справе пісьменніка, якая захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літвы. Але паасобныя звесткі нават у аўтарытэтных крыніцах аказваюцца недастаткова дакладнымі і надзейнымі. І таму сёння перад даследчыкамі стаіць нялёгкая задача кожны факт, кожную дэталь яшчэ раз праверыць, калі для гэтага ёсць хоць якая магчымасць.

Нарадзіўся Алесь Гарун (Аляксандр Уладзіміравіч Прушынскі) 27 лютага 1887 года (такая дата называецца ў афіцыйным дакуменце Кальварыйскага касцёла) у беднай сям'і чорнарабочага ў Мінску. Алесь змалку вызначаўся сваімі здольнасцямі і ў пяцігадовым узросце навучыўся чытаць па-

руску і па-польску. Маючы 6 гадоў, пайшоў вучыцца ў 3-е гарадское прыходскае вучылішча на Белацаркоўнай вуліцы. Скончыў яго ў 1897 годзе (у трэцім класе прасядзеў два гады, бо яго, «такога недалетку», як паведамляе Максім Гарэцкі, не дапусцілі першы год да экзаменаў). Яшчэ два гады давялося чакаць яму, каб мець права паступіць у рамесніцкае вучылішча. Там на дрэваапрацоўчым аддзяленні правучыўся тры гады, пасля чаго, з 1902 года, працаваў сталяром у розных майстэрнях і на мэблевай фабрыцы ў Мінску.

Такім чынам, адукацыя ў Алеся Гаруна была небагатая. Яму, як і Янку Купалу, «мудрасці кніжнай не даў бог пазнаці». Але свае веды ён настойліва і сістэматычна ўзбагачаў шляхам самаадукацыі.

Сёння цяжка сказаць, дзе ў дзяцінстве Алесь Гарун праводзіў больш часу: у родным горадзе, у якім ён адчуваў сябе чужым, ці на вёсцы ў сваёй цёткі. Як сцвярджае Максім Гарэцкі, будучы пісьменнік там «рабіў усё, што рабілі брацельнікі, пасвіў коней, ганяў авечак, вазіў гной і г. д.» Ён змалку прывучваўся любіць і шанаваць працу.

У 1904 годзе Алесь Гарун звязаў свой лёс з партыяй сацыялістаў-рэвалюцыянераў і актыўна заняўся падпольнай рэвалюцыйнай дзейнасцю. Ён ступіў на той шлях, які ў недалёкай перспектыве так крута павярнуў яго лёс. А пакуль што Алесь Гарун вёў прапаганду сярод мінскай вучнёўскай моладзі і рабочых.

4 сакавіка 1907 года ноччу яго арыштавалі ў падпольнай друкарні на вуліцы Шырокай у Мінску (раён сённяшняй вуліцы Чычэрына). Друкавалася там адозва пад назвай «Ко всем трудящимся». Яна захавалася ў судовай справе. У ёй, у прыватнасці, ёсць такія заклікі: «...Надо... бороться не на живот, а на смерть, ибо без борьбы нет свободы и счастья. Цари деспоты, владельцы земель, имущества и денежных капиталов всегда будут ставить преграды на пути к нашему освобождению, потому надо ко всему быть готовыми. Борьба должна быть кровавой, упорной, и лишь через трупы врагов вступим мы на путь ясной жизни, жизни свободной и счастливой, другого выхода нет. Борьба должна вестись

не за мелкие улучшения, а за социализм, который один только и может дать людям счастье и свободу».

Ці мог царскі суд дараваць такое? Справай Аляксандра Прушынскага (які першапачаткова спрабаваў сябе назваць пскоўскім мешчанінам Пятром Івановым) займаўся вядомы Кабека (той самы, які судзіў пазней Якуба Коласа). Так закончылася юнацтва будучага пісьменніка, і ў дваццацігадовым узросце ён быў вырваны з роднага асяроддзя і адпраўлены ў Сібір на пасяленне.

Вось звесткі, якія прыводзіць Максім Гарэцкі пра сібірскі перыяд жыцця пісьменніка-рэвалюцыянера: «Ссылку адбываў Гарун у Кірэнскім павеце Іркуцкай губерні. Спачатку жыў у невялікім чалдонскім сяле Макараўскім, ля ракі Лены — 71 вярста ад Кірэнска і 971 вярста ад Іркуцка; потым у вёсцы Крывая Лука, 18 вёрст ад Макараўскага. Займаўся там сталярскімі і цяслярскімі работамі... Ад 1914 г. Гарун быў на Лене вадалівам, даплываў аж да Якуцка. На баржы № 18 рыхтаваў ён да друку свой зборнік «Матчын дар», пасланы ўвосень 1914 г. у Вільню. Ад 1915 г. паэт падаўся на прыіскі ў Бадайбо, дзе і дачакаўся рэвалюцыі». У Мінск вярнуўся толькі ў верасні 1917 года.

У Сібіры, у такіх умовах, што маглі зламаць маральна, скалечыць фізічна (а гэта з цягам часу з Алесем Гаруном і здарылася, бо ён захварэў на сухоты), ён знайшоў у сабе сілы і волю для барацьбы — за жыццё, за захаванне чалавечай годнасці. Там, на чужыне, ён мусіў і веды набываць — працягваць тую самаадукацыю, якой займаўся дома, хоць умовы для гэтага былі непараўнана больш складанымі,— і засвойваць асновы мастацкай творчасці, а больш правільна — пракладваць у ёй зусім новыя, самастойныя шляхі, бо ні на каго ён не быў падобны, нікога не пераймаў, нічога ў творчасці не запазычваў (не з'яўляўся нічыім «падгалоскам», як сказаў пра яго Максім Багдановіч). А яшчэ даводзілася пісьменніку — без падручнікаў і граматык, нарматыўных і тлумачальных слоўнікаў, без бібліятэк і роднага асяроддзя — не толькі засвойваць, але і выпрацоўваць для сябе правілы і нормы роднай мовы з яе багатымі стылявымі і

вобразнымі магчымасцямі, з выкарыстаннем лексічных багаццяў, якія зберагла яго маладая памяць. Не трэба забываць, што гэта быў перыяд, калі правапіс і літаратурныя нормы беларускай мовы яшчэ толькі складваліся там, дзе з'яўляліся першыя перыядычныя выданні, кнігі, зборнікі, календары.

Нягледзячы на ўсе неспрыяльныя акалічнасці, беларускае слова жыло не толькі ў самой Беларусі, але і ў Пецярбурзе, і ў далёкім Ніжнім Ноўгарадзе, куды лёс закінуў сям'ю Багдановічаў, і ў братнім Кіеве ці наогул на Украіне, бо адтуль жывую сувязь з роднай зямлёй трымалі Сяргей Палуян і Янка Журба. Жыло яно і ў Сібіры, адкуль Алесь Гарун (а таксама Язэп Лёсік) пасылаў свае творы ў «Нашу Ніву». Змяшчаліся яны і ў розных зборніках. Пісьменнік уважліва сачыў за беларускімі выданнямі той пары і ніколі не парываў сувязі з родным краем.

# У БУРЛІВЫМ ВІРЫ

*Лютаўскі перапом 1917 года ⁎ Вызваленне і вяртанне на радзіму ⁎ Рамантычныя парыванні і цвярозая ацэнка ⁎ Хто павінен быць гаспадаром на беларускай зямлі? ⁎ «Одгукі» змагання за Беларусь ⁎ Загадкі Беларускай вайсковай камісіі ⁎ Мары пра «царства свабоды і працы»*

1917 год стаў пераломным у лёсе ўсёй Расійскай імперыі. Лютаўская рэвалюцыя скінула самаўладства трохсотгадовай дынастыі Раманавых і паклала пачатак дэмакратычным пераўтварэнням у Расіі. Саветы рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў бралі на месцах уладу ў свае рукі.

На землях Беларусі ў часе вайны адны акупанты змяняліся другімі, салдаты і адміністрацыйныя ўлады чарговых прышэльцаў марадзёрствавалі, беспакарана рабавалі ў людзей нажытае дабро. Усё гэта не магло не выклікаць абвастрэння пачуцця трывогі за лёс народа. У асяроддзі інтэлігенцыі і грамадскіх дзеячаў, а з цягам часу і ў шырокіх народных масах усё больш умацоўвалася імкненне да дзяржаўнай незалежнасці, да права самім беларусам вырашаць свой лёс.

Доўгім і пакутлівым быў шлях да самавызначэння. Этапнай падзеяй на гэтым шляху з'явіўся Усебеларускі кангрэс, на які ў снежні 1917 года з'ехаліся дэлегаты ад усіх рэгіёнаў Беларусі, ад усіх арганізацый. Былі там і прадстаўнікі бежанцаў, і тых, хто служыў у арміі ці на флоце, хто жыў у Петраградзе або Маскве. Як пісаў Антон Луцкевіч, «...у снежні 1917 года ўвесь беларускі народ аб'яднаўся на Усебеларускім З'ездзі ў Менску і вуснамі каля 2000 дэпутатаў высказаў перад усім светам сваю волю» *. Можна дадаць, што ўпершыню за ўсю гісторыю.

* *Луцкевіч А. Польская акупацыя ў Беларусі. Вільня, 1920. С. 2.*

Кангрэс ушанаваў свайго актыўнага ўдзельніка Алеся Гаруна як паэта і рэвалюцыянера, што так доўга пакутаваў за родную зямлю. Вось што паведамляла газета «Белорусская Рада» (1917. № 6):

«7 снежня.

Вялікі гістарычны дзень. Сёння вырашаецца лёс вякамі прыгнечанай Беларусі [...] Гарачыя авацыі былі наладжаны [...] гонару Беларусі — былому ссыльнаму за яе волю паэту Алесю Гаруну». А потым у тэксце карэспандэнцыі яшчэ адно паведамленне: «Прыгожую і поўную любві да свайго народа і да ўсіх астатніх народаў прамову сказаў Алесь Гарун. Колькі велічы ў ягонай прамове. Колькі, відаць, гора пераджыў гэты сібірскі выгнанец».

На пленарным пасяджэнні 14 снежня Алесь Гарун абіраецца намеснікам старшыні з'езда. Быў абраны і ганаровы старшыня: ім стаў прафесар Я. Ф. Карскі.

Усебеларускі кангрэс паклаў пачатак актыўнаму змаганню за права беларускага народа самому вырашаць свой лёс. І 25 сакавіка 1918 года была абвешчана незалежная Беларуская Народная Рэспубліка, якая, аднак, абнародаваўшы вельмі прывабную рэвалюцыйную праграму (свабода слова, друку, забастовак, веравызнання, 8-гадзінны рабочы дзень, раўнапраўе ўсіх моваў, адмена прыватнай уласнасці на зямлю і перадача яе без выкупу сялянам), ва ўмовах нямецкай акупацыі не мела ніякай улады, каб яе ажыццявіць.

Затым 1 студзеня 1919 года была ўтворана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад Беларусі прыняў і апублікаваў маніфест, у якім абвяшчалася, што ўсе землі, лясы і воды, а таксама зямныя нетры, чыгункі, шляхі зносін, фабрыкі, заводы, банкі з'яўляюцца ўсенароднай уласнасцю. Узаконьваліся таксама і іншыя правы: 8-гадзінны рабочы дзень, роўныя правы ўсіх нацыянальнасцей, што жывуць на тэрыторыі Беларусі, і інш. Аднак і гэты ўрад, праіснаваўшы вельмі нядоўга (з 1 студзеня да 2 лютага), не паспеў здзейсніць нічога канкрэтнага.

У складаных умовах нямецкай акупацыі Алесь

Гарун актыўна ўключаецца ў пісьменніцкую і грамадскую дзейнасць, шукае шляхоў да служэння інтарэсам народа. Не так ужо багата захавалася звестак пра яго дзейнасць у той перыяд. Але вядома, што ён быў цесна звязаны з тагачаснымі беларускімі арганізацыямі, якія існавалі на акупаванай тэрыторыі.

У 1922 годзе ў часопісе «Беларускі сцяг» (№ 1) былі апублікаваны ўспаміны, у якіх, у прыватнасці, паведамляецца пра адно з яго публічных выступленняў у 1918 годзе і апісваецца знешні выгляд паэта: «Паднялася крыху згорбленая,— чытаем ва ўспамінах,— апранутая ў сялянскую жакетку, павольная статура. Бледнае аблічча, цёмныя засмучаныя вочы, спакойны, роўны, але цвёрды голас». Такім быў 31-гадовы пісьменнік, колішні ўдзельнік рэвалюцыйных падзей, што адчуваў асабістую адказнасць за лёс Беларусі і думаў толькі пра тое, як ва ўмовах вайны, разбурэнняў, калі на роднай зямлі гаспадарылі акупацыйныя арміі, аберагчы народ ад новых пакут, неабачлівых, неабдуманых дзеянняў.

Пры гэтым ён не забываўся на рэвалюцыю ў Расіі і адзначыў яе здзяйсненні: «Шмат гаварылася тутака аб рэвалюцыі, аб заслугах блізкага нам расійскага пралетарыяту, аб патрэбе паглыбляць рэвалюцыю. Я шаную рэвалюцыю, я аддаю ёй сваю пахвалу. Я сам рэвалюцыянер, але аб адным забыліся вы: рэвалюцыі ў нас на Беларусі няма. Яе задушылі Гофман і Троцкі ў Бярэсці, падзяліўшы нашу Бацькаўшчыну, разарваўшы яе на часці». Сам А. Гарун папярэджвае, каб беларусы з голымі рукамі не кідаліся на нямецкія кулямёты і гарматы, хоць бы нават і ў імя паглыблення рэвалюцыі. У выступленні пісьменніка вызначылася абачлівасць, розум, уменне цвяроза ацэньваць тое, што адбывалася: «Вы гаворыце аб паглыбленні рэвалюцыі ў той час, калі нямецкі шуцман можа прыйсці сюды і разагнаць гэты высокі сход».

Сёння можна лічыць бясспрэчным, што ў сваёй грамадскай дзейнасці (як і ў літаратурнай творчасці) А. Гарун кіраваўся патрыятычным жаданнем знайсці тыя шляхі, якія вялі б беларускі народ да лепшай долі, да незалежнасці, давалі б яму

права самому вырашаць свой лёс, здзейсніць спрадвечную мару аб сацыяльнай справядлівасці, аб волі і зямлі.

Ідэйна-палітычныя погляды пісьменніка таго складанага, багатага пераломнымі падзеямі перыяду найбольш выразна, мабыць, былі сфармуляваны ў артыкуле «Одгукі», апублікаваным 7 студзеня 1918 года ў газеце «Вольная Беларусь». Тут выявілася ўся супярэчнасць ідэйных пазіцый Алеся Гаруна. Ён яшчэ не адрозніваў сацыялістычнай Савецкай Расіі ад Расіі царскай. Словы аб «заслугах блізкага нам расійскага пралетарыяту» будуць сказаны пазней, а вось на рубяжы 1917—1918 гадоў пісьменнік бачыў толькі тую Расію, у якой было ўзаконена палітычнае і культурнае бяспраўе нацыянальных ускраін і якую У. І. Ленін у 1914 годзе назваў турмой народаў.

Ці не пад уздзеяннем варожай прапаганды ён так думаў? Не. Падставай для такіх уяўленняў служылі драматычныя падзеі, якія разгарнуліся ў Мінску 17 снежня 1917 года, калі прадстаўнікі Аблвыканзаха, выкарыстаўшы ваенную сілу, разагналі Усебеларускі з'езд, не зрабіўшы спробы правесці раўнапраўныя перагаворы з прадстаўнікамі беларускага народа *. Такія недальнабачныя дзеянні некаторых бальшавікоў адштурхоўвалі ад іх патрыятычна і рэвалюцыйна настроеных удзельнікаў з'езда.

У гэты ж час, у 1917—1918 гадах на тэрыторыі Беларусі быў створаны дваццацітысячны корпус генерала Ю. Доўбар-Мусніцкага, які абараняў інтарэсы і маёмасць польскіх памешчыкаў і ў 1918 годзе ваяваў супраць Чырвонай Арміі.

У рукапісным аддзеле бібліятэкі Варшаўскага універсітэта, у фондзе Міхала Федароўскага, захоўваецца тэкст дэкларацыі палякаў з так званай польскай і польска-беларускай часткі Літвы, прадстаўленай 19 снежня 1917 года Рэгенцкай радзе, якая часова выконвала абавязкі польскага ўрада яшчэ да абвяшчэння незалежнасці Рэчы Паспалі-

---

* *Гл. успаміны члена Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі Язэпа Дылы: Дыла Я. Праз гады барацьбы і выпрабаванняў // Крыніца. 1989. № 1.*

тай (афіцыйнай датай адраджэння Польшчы лічыцца 11 лістапада 1918 года). У дэкларацыі, у прыватнасці, патрабавалася: «Сёння, калі незалежнасць Польскай дзяржавы становіцца рэальнасцю, просім Найшаноўнейшую Рэгенцкую раду прызнаць галоўнай мэтай нашай палітыкі здабыццё нашых усходніх крэсаў. Дзеля гэтай справы просім па магчымасці як найхутчэй стварыць шматлікую і дысцыплінаваную польскую армію». Гэтую дэкларацыю, у ліку іншых, падпісаў і Міхал Федароўскі. Такія ж патрабаванні выказваліся і ў друку.

Асноўны пафас артыкула Алеся Гаруна «Одгукі» накіраваны супраць экспансіяніскай палітыкі арганізатараў польскіх легіёнаў. Звяртаючыся да тых, хто ўсімі сіламі спрабаваў даказаць неабходнасць далучэння беларускіх земляў да будучай Польшчы (артыкул «Одгукі» з'явіўся ў друку за 10 месяцаў да афіцыйнага абвяшчэння незалежнасці Рэчы Паспалітай), Алесь Гарун з асаблівай сілай пераканання перасцерагаў: «Зразумейце, што калі слова «прыгоншчык» зрабілася аднназначным слову «паляк», то тут вашая віна перад польскім народам [...] Як вольны з вольным, роўны з роўным, пойдзе ён, працоўны беларускі народ, поруч з другімі народамі, а ў тым ліку і з польскім, але не з вамі, прыхваснямі польскага імперыялізму, хоць бы вы былі і тутэйшымі здраднікамі і перакінчыкамі, забыўшымі бацьку і мацяр сваю.

Пара зразумець, што вашага «стану посядання» (маёмасці.— *У. К.*) на Беларусі няма і не можа быць. Гэты стан пасядання трымаўся на зямельнай уласнасці, каторая павінна перайсці да яе праўдзівага, адвечнага гаспадара — «хлопа бялорускего» [...]

[...] Вы запэўняеце, што будзеце бараніць свае зямлі [...] Ось гэта і падае нам думку, што вашы легіоны [...] трымаюцца на нашых Беларускіх абшарах дзеля акупацыі [...] Вы дамагаецеся большай спаяльнасці Беларусі з «Польскім краем»,— а ці запыталі вы ў народу беларускага, па чом абышлася яму гэтая спаяльнасць? [...] А калі вам, калі «обыватэльству» (памешчыкам.— *У. К.*) вашаму так жадаецца «святоі спаяльнасці», дык можаце саўсім зліцца з кім ахвота вашая будзе, але зямель-

ку нашую, каторую вы з такім запалам збіраецеся бараніць (ад каго і якім спосабам?), мусіце пакінуць народу [...] Дэлегацыя «обыватэльства Літвы і Беларусі» ў Берлін аб прылучэнні Літвы і Беларусі да Польшчы — даюць ясны адказ, дзеля якой мэты арганізуеце вы на нашай зямлі польскія легіёны.

Але ні будзе гэтага!..» *

Такім чынам, падзеі ў Мінску 17 снежня 1917 года і выступленні тагачаснага мясцовага польскага друку з'явіліся канкрэтнай прычынай недаверлівага стаўлення Алеся Гаруна да Савецкай Расіі, што толькі нарадзілася, і да той Польшчы, якой афіцыйна яшчэ не было на карце Еўропы. І ён пісаў у «Одгуках», звяртаючыся да мясцовых прадстаўнікоў польскай грамадскасці: «Вы пакепліваеце з нас, што мы так заняты зямельным пытаннем. Так,— бо зямельнае пытанне — частка нашага нацыянальнага пытання, бо народ наш да гэтага часу быў у аблозе. Навокала яго сядзелі ворагі і з усіх бакоў будавалі «пляцоўкі» — у грамадскіх установах — маскоўскія, у дварох — польскія. Зруйнаваць гэтыя пляцоўкі—гэта першы крок у бок аслабанення нашага народу ад усякага ўціску: і матэрыяльнага і культурнага».

Пра Алеся Гаруна ў свой час пісалі неаднаразова. Але пра гэты артыкул нідзе не сказана ні слова. Затое ў розных крыніцах вельмі часта падаецца іншая падзея з біяграфіі паэта. Калі ў 1919 годзе тыя «легіёны» ўсё ж нахлынулі на беларускую зямлю, а следам за імі пацягнуліся плоймай памешчыкі, якія адразу ж узяліся наводзіць свае парадкі, вяртаць свой «стан посядання», збіраючыся заставацца навек, Алесь Гарун у верасні вітаў у Мінску Пілсудскага ад імя беларускай грамадскасці. А неўзабаве загадам самога начальніка Рэчы Паспалітай Польскай быў прызначаны членам Беларускай вайсковай камісіі (БВК). Гэта давала як быццам неабвержную падставу абвяшчаць пісьменніка ворагам сацыялістычнай рэвалюцыі і Савецкай краіны. І на працягу многіх дзесяцігоддзяў творы Алеся Гаруна забараняліся толькі па той прычыне, што

---

* *Вольная Беларусь. 1918. № 1.*

ён сказаў прывітальную прамову ў гонар начальніка Польскай дзяржавы і быў членам БВК. Беларуская вайсковая камісія павінна ж была арганізаваць беларускую антысавецкую армію. Так, павінна была, але ці арганізавала?

Перад намі — адна з заблытаных старонак гісторыі беларускага народа, адна з яе загадак, якая заслугоўвае таго, каб зацікавіцца ёю больш уважліва. Факты, якія можна ўстанавіць па перыядычным друку той пары і па архіўных матэрыялах, апавядаюць нам пра нечаканыя падзеі і з'явы, звязаныя з імем Алеся Гаруна.

28 ліпеня 1919 года дэлегацыя беларускіх дзеячаў на чале з Браніславам Тарашкевічам наведала Пілсудскага і перадала яму дэкларацыю Цэнтральнай Беларускай рады Віленшчыны і Горадзеншчыны, дзе, у прыватнасці, было сказана: «...Рада зварочваецца да вашае міласці з просьбаю падтрымаць стварэнне збройнае сілы, як вядомага знаку мкнення беларускага народу да вольнага і незалежнага жыцця» (Беларускае жыццё. 1919. № 9).

Там жа даецца даведка і пра адказ начальніка Польскай дзяржавы: «Што датычыцца войска, дык (Пілсудскі.— *У. К.*) сказаў, што зараз дасць мясцовым ваенным уладам прыказ, каб, згаварыўшыся з Беларускаю радаю, заняліся арганізацыяй збройнай сілы». І яшчэ паведамлялася: «Аўдыенцыя трывала 40 мінут і насіла цёплы прыхільны характар».

Рада выбрала вайсковую камісію, якую ўзначаліў П. Аляксюк. Камісія павінна была «пачаць тварыць збройную сілу беларускага народу» (Беларускае жыццё. 1919. № 10). А неўзабаве старшыня камісіі заявіў: «Я веру, што хутка беларуская нацыянальная армія будзе ваяваць разам з польскай арміяй за свабоду Беларусі, і пралітая супольна кроў утворыць брацкі саюз» (апублікавана ў рускай газеце «Минский курьер» і перадрукавана ў газеце «Беларускае жыццё». 1919. № 13). А потым у друку з'явілася паведамленне: «Прадстаўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Парыжы генерал Кандратовіч і сябар б. Дзяржаўнай рады Азнабішын атрымалі ад амерыканскіх вайсковых колаў прапазіцыю закупіць для Беларусі ваенныя

матэрыялы, якія засталіся ў Францыі пасля амерыканскай арміі.

Прапазіцыя гэта прынята. Прадстаўнікі Беларусі падпісалі ўмову аб куплі на 400 мільёнаў долараў» (Беларусь. 1919. № 6 (33)).

Па сённяшнім курсе — гэта мільярды долараў. Адкуль іх маглі ўзяць кіраўнікі БНР? Святло на гэтае пытанне пралівае перадавы артыкул «Беларусі» ад 22 студзеня 1920 года (№ 13 (69)) пад загалоўкам «Час прайшоў — час настаў»: «Аднэй з першых нашых патрэб павінна быць — стварэнне войска і заняцце часткі фронту. З дазволу галавы Польскага гаспадарства фармаванне войска нам не забараняецца. Далей чакаць праступна. Амуніцыю і аружжа мы павінны мець ад Антанты, гэта дзела нашых дыплёматаў, яны павінны клапаціцца, а мы арганізоўвацца. З дабравольчых атрадаў трэба перайсці да мабілізацыі ўсіх народных сілаў...»

Варта прывесці яшчэ адно цікавае паведамленне друку: «Члены французскай вайсковай місіі былі гэтымі днямі ў Беларускай вайсковай камісіі і знаёміліся са справай арганізацыі беларускай арміі» (Беларусь. 1920. № 41 (97)).

Перад камісіяй стаяла, здавалася б, зусім нескладаная задача: аб'яднаць усіх ворагаў Кастрычніцкай рэвалюцыі для вайны супраць Савецкай Расіі. На першы погляд, для гэтага былі ўсе магчымасці: хапіла б і зброі, і падбухторшчыкаў, і ахвотнікаў (на той час у Беларусі існавалі дзесяткі тысяч кулацкіх гаспадарак, сярэдняя і дробная буржуазія, не кажучы пра памешчыкаў і капіталістаў). А яшчэ ж былі і недабіткі белагвардзейскіх армій, гатовыя служыць хоць каму.

Неаднойчы ў нас пісалася пра тое, колькі антысавецкіх выступленняў на тэрыторыі Беларусі было ў перыяд грамадзянскай вайны. Так, напрыклад, толькі ў адным Слуцкім паўстанні ўдзельнічалі 4000 чалавек. 16 лютага 1920 года «Беларускае жыццё» ў № 4 (26) паведамляла: «У Эстоніі цяпер знаходзіцца беларускі атрад з 4000 чалавек. Ёсць атрады кавалерыі і артылерыі. Беларускімі войскамі камандуе генерал Балаховіч». Гаворка тут, як бачым, вядзецца пра тэрыторыю, на якую не пашыраліся паўнамоцтвы Беларускай вайсковай камісіі.

У розных месцах дзейнічалі адасобленыя, менш шматлікія групы. Так што ўмовы для стварэння ў Беларусі цэлай антысавецкай арміі існавалі.

А чаго дасягнула Беларуская вайсковая камісія, якая актыўна публікавала заклікі, адозвы, праводзіла агітацыйную работу? У студзені 1920 года беларускі штомесячнік, які выдаваўся ў Коўне пад назвай «Часопісь», з лёгкай іроніяй паведамляў: «Расхвалены праект арганізацыі беларускіх частак у польскай арміі, атрымаўшы высокую згоду начальніка Рэчы Польскай Паспалітай і распаўсюджаны яшчэ ў восень 1919 году, да студзеня 1920 году не даў ні воднага салдата, ні воднага беларускага штыка».

Неаднаразова пісала пра гэта і «Беларусь». 18 сакавіка 1920 года ў № 60 (116) у артыкуле «Час азірнуцца» рабілася яшчэ адна спроба ўздзейнічаць на камісію: «Беларуская вайсковая камісія зложана аж з 9 асобаў; пад ведаю гэтых дзевяцёх асобаў ёсць яшчэ шмат іншых асобаў; кожны дзень яны ходзяць у штаб, нешта робяць, а рэзультату іх працы дасюль не відаць. Ці не пара ўжо ўсяму беларускаму грамадзянству азірнуцца ў гэтай рабоце назад і сур'ёзна падумаць аб тым, каб будаванне войска сапраўды скрануць з нежывога пункту».

Становішча не змянілася і да лета 1920 года. Вось з якім адчаем скардзілася «Незалежная думка» 8 чэрвеня 1920 года: «Ужэ блізка каля году, як стварылася так званая «Беларуская вайсковая камісія», існуючая ў Мінску. Мэтай яе было і ёсць арганізаваць беларускае войска, каторае стаяла б на варце абароны бацькаўшчыны ад ворагаў. Доўга чакала беларускае грамадзянства хоць якіх-небудзь рэзультатаў ад працы камісіі і не дачакалася. Радужныя надзеі беларускіх незалежніцкіх кругоў патроху паблеклі і змяніліся на чорную безнадзейнасць. Цяпер мала хто верыць, што з вайсковай беларускай справы будзе пры сучасных палітычных варунках якая-небудзь карысць...»

У артыкуле разглядаюцца і прычыны такога становішча. Адна з іх — непрыхільнае стаўленне польскіх правых сіл, у асаблівасці так званай «эндэцыі» («нацыянальнай дэмакратыі»), да беларусаў. «Другая прычына, перашкаджаючая фарміра-

ванню беларускага войска,— падкрэсліваецца далей у артыкуле,— ляжыць у самым напрамку працы павадыроў Беларускай вайсковай камісіі. [...] Камісія прасявае праз вузкае сіта розных «эвідэнцыйна-кваліфікацыйных» камісій кожнага, жадаючага паступіць у беларускае войска, і рэдка хто з гэтага сіта высяваецца. Большасць, пры тым аграмадная, як непатрэбныя высеўкі, выкідаецца з сіта на сметнік. Дзякуючы гэтаму, у шырокім беларускім грамадзянстве даўно ўжо ведама, што ў беларускае войска цяжэй папасці, як у рай Магамета, што ў беларускае войска, асабліва ў беларускія афіцэры, папасці беларусу такім, якім ён ёсць, проста немагчыма. [...] Разумеецца, што ад такой працы вайсковай камісіі нічога добрага чакаць не можна. Па ўсяму відаць, што ў вайсковай камісіі сядзяць людзі, кірунак працы каторых не адпавядае патрэбам і настрою беларускага народу. [...] Калі ўсё застанецца па-старому, то войска беларускага як не было, так і не будзе...»

Адсутнасць канкрэтных вынікаў у дзейнасці камісіі ніяк не давала спакою прадстаўнікам «незалежніцкіх кругоў», выклікала іх абурэнне: «Апошнімі днямі, калі бальшавікі неспадзеваным выпадам з-пад Полацка занялі Глыбокае і іншыя мясцовасці, не зусім далёкія ад Міншчыны, Беларуская вайсковая камісія выпусціла некалькі адозваў да «беларусаў», «сялян» і «братоў-беларусаў» з прызывам запісвацца ахвотнікамі ў беларускае войска. [...] Паміж іншымі словамі адозваў звяртаюць на сябе ўвагу словы да «сялян, братоў-беларусаў»:

«Браты Сяляне! У нас, на Беларусі, досыць зямлі і памешчыцкай і нашай, каб задаволіць ёю ўсіх нас тутэйшых людзей. Нам трэба толькі наладзіць парадак. [...] Мы напярэдадні аб'яўлення незалежнасці нашай Бацькаўшчыны, дзе мы, усе тутэйшыя людзі, будзем лічыць сябе гаспадарамі сваёй роднай старонкі».

Адна думка аб магчымасці перадзелу памешчыцкіх маёнткаў выклікае ў тых, хто пісаў і друкаваў карэспандэнцыю, святы гнеў. Не менш абурыла іх і фраза: «Мы напярэдадні аб'яўлення незалежнасці нашай Бацькаўшчыны». Яны проста дзіву даюцца: «Здаецца, што каму-каму, а беларус-

кай вайсковай камісіі трэба было б ведаць, што незалежнасць Беларусі абвешчана Радай Народнай Рэспублікі яшчэ 25 сакавіка 1918 г.»

Тут якраз і напрошваецца пытанне: пра якое блізкае вызваленне Бацькаўшчыны і вырашэнне зямельнага пытання з улікам наяўнасці памешчыцкіх маёнткаў магла ісці гутарка ў перыяд пераможнага наступлення Чырвонай Арміі?

А яшчэ больш сур'ёзнае пытанне да гэтага часу так і не было пастаўлена: чаму ўсё ж такі камісія, якая павінна была стварыць цэлае войска, маючы для гэтага ўсе магчымасці, людскія і матэрыяльныя рэсурсы, перад самым вызваленнем Мінска сфармавала толькі адну роту («кампанію»), якую адправіла не на фронт, а на курсы беларусазнаўства? Уся гэтая гісторыя тым больш загадкавая, што камісію ўзначальваў чалавек, які шчыра супрацоўнічаў з акупантамі (а ў яго ж былі і аднадумцы).

Тут што ні крок — то нейкія супярэчнасці. Разблытаць гэты складаны вузел загадак памагаюць архіўныя дакументы. Дзейнасцю БВК (і ўсіх беларускіх арганізацый) праз нейкі час зацікавілася разведка польскага генеральнага штаба. І ў падрыхтаваным ёю дакуменце паведамляецца, што восенню 1919 года (дакладная дата не называецца) у Смаленску паміж прадстаўнікамі беларускіх арганізацый і бальшавікамі было заключана пагадненне аб сумеснай барацьбе супраць войск Пілсудскага. У адпаведнасці з 4-м параграфам пагаднення (усіх параграфаў было 5) беларускія дзеячы павінны былі ўстанавіць кантроль над Беларускай вайсковай камісіяй. Ім удалося ўвесці ў яе склад сваіх людзей, і ў прыватнасці А. Прушынскага (А. Гаруна) і С. Рак-Міхайлоўскага. «Дзякуючы гэтаму,— паведамляецца далей у дакуменце,— эсэры і камуністы з'явіліся амаль адзінымі кіраўнікамі гэтай самай важнай справы — стварэння беларускага войска. Выкарыстоўваючы свой уплыў, не падпускалі яны да беларускага войска афіцэраў, пра якіх ведалі, што яны з'яўляюцца ворагамі бальшавікоў. Не прымалі таксама б[ылых] афіцэраў армій Карнілава, Дутава, Калчака або Юдзеніча. У той жа час ахвотна прымалі і вербавалі б[ылых] афіцэраў і салдат Савецкай Арміі».

Прадстаўнікі БВК, паведамляецца далей, «ішлі ў народ, праводзячы антыпольскую агітацыю і заклікаючы да ўзброеных выступленняў. Прабіраліся яны таксама ў атрады, ужо створаныя Беларускай вайсковай камісіяй, і або перацягвалі іх на свой бок, або разганялі, калі агітацыйная дзейнасць не памагала, не адмаўляючыся ад забойства больш упартых камандзіраў».

У гэтай гісторыі заўважаецца адзін нечаканы і арыгінальны аспект. Уся дзейнасць камісіі ажыццяўлялася пад ідэйным сцягам яскрава выяўленага, паслядоўнага беларускага нацыяналізму. Тым, каго БВК не пускала ў сваё войска, якое, па задуме арганізатараў, павінна было б стаць антысавецкім, абвяшчалася, што яны не чыстакроўныя беларусы. Такая лінія цвёрда праводзілася ў жыццё і абаранялася ў друку. На справе гэта надзейна загароджвала дарогу для ўсякага роду былых белагвардзейцаў. Вось што афіцыйна заявіла прэс-бюро Беларускай вайсковай камісіі ў адказ на адно з крытычных выступленняў у друку: «У № 1 віленскай часопісі «Незалежная думка» надрукавана карэспандэнцыя з Менску «Аб беларускім войску», падпісаная: «Менчук». Аўтар гэтай карэспандэнцыі, указваючы на «прычыны, перашкаджаючыя фармаванню беларускага войска», між іншым робіць закіды Беларускай вайсковай камісіі, што яна «прасявае праз вузкае сіта кожнага жадаючага паступіць у беларускае войска».

У адказ на гэта Беларуская вайсковая камісія выясняе, што гэтакае «сіта» лічыць яна канечне патрэбным дзеля таго, каб у беларускае войска не пападалі чужацкія, варожа настроеныя да беларускасці элементы. Беларуская вайсковая камісія стаіць на тым поглядзе, што для нашай беларускай справы важней маральная вартасць і нацыянальная свядомасць жаўнера, чымсь яго колькасць».

У тагачасным беларускім друку паведамлялася, што антысавецкія атрады заяўлялі аб сваім падпарадкаванні Беларускай вайсковай камісіі. БВК накіроўвала да іх сваіх афіцэраў. У адной з такіх інфармацый, напрыклад, чытаем: «Атрад Семенюка рэарганізуецца. Беларускай вайсковай камісіяй назначаецца ў гэты атрад шэсць беларускіх афіцэ-

раў, каторыя будуць камандаваць на беларускай мове. Атрад пераходзіць пад загад Вайсковай камісіі» (Беларусь, 1920, № 41 (97) ад 25 лютага). Больш пра гэты атрад ужо нідзе не ўпамінаецца.

І яшчэ адзін прыклад: «Дэлегацыя партызанскіх атрадаў Смаленшчыны і Віцебшчыны, якая прыбыла ў Менск, звярнулася да Беларускай вайсковай камісіі з просьбай аб прыняцці пад свой загад, на што дана згода» (Там сама). Інфармацыя пра адзін з такіх атрадаў была змешчана і ў 37-м нумары «Беларусі» за 1919 год.

Такім чынам, у дакуменце аддзела разведкі польскага генеральнага штаба паведамляецца пра тую ролю, што была адведзена А. Прушынскаму ў БВК. А канкрэтныя карэспандэнцыі ў беларускім друку, прысвечаныя камісіі, пацвярджаюць тыя звесткі *.

Варта звярнуць увагу і на такую акалічнасць. У той час, калі антыбальшавіцкая агітацыя дасягнула небывалых маштабаў, у аўтара «Матчынага дару», члена БВК, мы не знойдзем ніводнага анты-

---

* *Варта сказаць колькі слоў пра далейшы лёс Беларускай вайсковай камісіі. 1 ліпеня 1920 года прэзідыум камісіі прыняў рашэнне аб адстаўцы ў поўным складзе і накіраваў Пілсудскаму спецыяльны мемарандум, у якім абгрунтоўвалася неабходнасць такога рашэння. 11 ліпеня 1920 года ў «Незалежнай думцы» (№ 6) была змешчана карэспандэнцыя «Адстаўка Вайсковай камісіі», падпісаная псеўданімам «Менчук». Там паведамлялася: «...Беларуская вайсковая камісія ў Менску ў поўным складзе падалася ў адстаўку. Старшыня камісіі п. П. Аляксюк зλажыў свае паўнамоцтвы, але, быццам, польская ўлада не згадзілася на яго адстаўку. У сувязі з гэтымператварэннем складу камісіі ў Менск з Вільні выехаў вядомы беларускі дзеяч п. П. Умястоўскі». Варта нагадаць, што 11 ліпеня 1920 года (у дзень з'яўлення карэспандэнцыі) Мінск быў вызвалены Чырвонай Арміяй.*

*3 кастрычніка 1920 года начальнік генштаба польскай арміі генерал-паручнік Т. Развадоўскі падпісаў загад, у якім, у прыватнасці, гаварылася: «Улічваючы заяву прадстаўнікоў Беларускіх нацыянальных устаноў (Białoruskich Instytucji Narodowych) ад дня 23.IX.1920 за № 562, падпісаную п. п. Івано́ўскім Вацлавам, Цярэшчанкам Казьмой і Тарашкевічам Браніславам, Галоўнае камандаванне В[ойска] П[ольскага] вызначае новы склад Беларускай вайсковай камісіі ў асобах:*

| | |
|---|---|
| *інжынера* | *Францішка Умястоўскага* |
| *палк.* | *Давіда Якубоўскага* |
| *кпт.* | *Андрэя Якубецкага* |
| *кпт.* | *Францішка Кушаля* |
| *і* | *п. Эдмунда Якабіні».* |

савецкага артыкула або мастацкага твора, хоць у друку выступаў ён часта. Затое ў 1919 годзе Алесь Гарун змясціў верш у зборніку «Дзень Чырвонае Арміі» з такім характэрным заклікам:

Мусім народ абудзіці,
Голасна мусім пазваць:
— Гэй, хто работнік? Хадзіце
Новы ўсім лад будаваць!
Будуць для ўсіх там палацы,
Стане на ўсіх там цяпла
У панстве братэрства і працы,
Вольнасці, хлеба й святла.

Вось за што, як гэта ўяўлялася пісьменніку, змагаецца Чырвоная Армія. Думаецца, што зусім невыпадкова 22 чэрвеня 1920 года, г. зн. за тры тыдні да вызвалення Мінска Чырвонай Арміяй (і за месяц да смерці), у часопісе «Рунь», рэдактарам якога з'яўляўся Янка Купала, быў апублікаваны верш А. Гаруна «Кліч». Гэта быў паэтычны заклік да ўсенароднага паўстання і змагання за доўгачаканую волю:

Гэй, народзе, трэба ўстаць,
Дух свой з рабства распрастаць,—
Чуеш: Волі зычны звон
Будзіць, кліча меддзю ён
Ўсе народы ўсіх старон,
Каб разбурыць крыўды трон.

Скрозь, куды-хаця зірні,—
Здзівіць з дзіваў дзіва-цуд:
У небе літары-агні
Свецяць ноччу і пры дні —
«Вызваль дух свой, рабскі люд!»

Ў гэты час пракляты будзь,
Хто свой карк захоча гнуць
Й рукі ворагу лізаць,
Й словы льсцівыя казаць.

Па сваім змесце і духу верш «Кліч» блізкі да «Інтэрнацыянала». Кожны радок яго гучыць як набат, як заклік да паўстання, да штурму і разбурэння «крыўды трона», да вызвалення «ўсіх народаў ўсіх старон», а таксама як праклён пакорлівасці.

Дык чаму ўсё ж такі ў верасні 1919 года Алесь Гарун звярнуўся да начальніка Польскай дзяржавы з прывітальнай прамовай? Ці не адмовіўся ён ад

ідэй, якія калісьці з такім запалам і хваляваннем абараняў у артыкуле «Одгукі»? А, можа, ён паверыў абяцанням Пілсудскага, які ў звароце да насельніцтва былога Вялікага княства Літоўскага 22 красавіка 1919 года, у прыватнасці, дэклараваў: «Хачу даць вам магчымасць вырашэння ўнутраных нацыянальных і рэлігійных спраў так, як самі гэтага будзеце жадаць, без якога б там ні было насілля або націску з боку Польшчы»? Пілсудскі абвясціў таксама, што на ўсёй тэрыторыі ўводзіцца не ваенная, а цывільная адміністрацыя, якая павінна будзе даць магчымасць народу свабодна вырашаць свой лёс шляхам усеагульнага тайнага, непасрэднага галасавання, а таксама дапаможа насельніцтву харчамі, забяспечыць парадак, створыць умовы для прадукцыйнай працы, будзе апекавацца ўсімі, незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці і веравызнання.

Гэта быў час, калі ніхто не шкадаваў ні прыгожых слоў, ні абяцанак. Але абяцанкі і словы, не падмацаваныя рэальнымі справамі, абясцэньваліся яшчэ хутчэй, чым грошы чарговых улад, якія мяняліся, не паспеўшы хоць колькі часу затрымацца. Што ж да палітыкі польскай адміністрацыі, то для яе практычнай дзейнасці абяцанні Пілсудскага не мелі ніякага значэння. На беларускую зямлю вярнуліся памешчыкі, якіх Кастрычніцкая рэвалюцыя пазбавіла зямлі, маёмасці і ўсіх правоў. І яны не толькі вярталі сабе ўсё, што захавалася, але і помсцілі сялянам за ўдзел у рэвалюцыі.

Асноўныя палітычныя сілы Беларусі — прытым не толькі бальшавікі — актыўна выступалі супраць такой палітыкі і, аб'ядноўваючы свае намаганні, вялі падпольную дзейнасць, стваралі партызанскія атрады.

У 1918 годзе Алесь Гарун не верыў ні палякам, ні бальшавікам. І хоць ён аддаваў даніну павагі рэвалюцыйнаму пралетарыяту Расіі, але як рэдактар газеты «Беларускі шлях» і як паэт ён дазваляў сабе ідэйную палеміку з палітыкай савецкай улады і крытыку таго, што адбывалася ў Савецкай Расіі. Аднак пасля верасня 1919 года, пасля таго славутага выступлення ў Мінску, нідзе ні слова не сказаў ні пра Кастрычніцкую рэвалюцыю, ні пра кіраў-

нікоў Савецкай дзяржавы. Ні дрэннага, ні добрага.

Добрага не прапусціла б ваенная цэнзура. Але не надта вядома, ці меў бы ён жаданне нешта хваліць. Аднак і ганіць не хацеў. Гэта можна сцвярджаць з упэўненасцю. А Пілсудскага ў верасні 1919 года вітаў таму, што яму трэба было стаць членам БВК. Так гэтая справа ўяўляецца ў святле вядомых нам сёння фактаў. Склад камісіі ў канчатковым выніку зацвярджаўся асабіста Пілсудскім. І кожны прэтэндэнт павінен быў заваяваць давер і яго самога, і яго акружэння. Для А. Гаруна як для аўтара артыкула «Одгукі» гэта была асабліва складаная задача. І тым не менш мэта была дасягнута. Пасля гэтага ён ужо нідзе ні слова не сказаў у падтрымку акупантаў.

Мы пакуль што не ведаем, якія мэты ставілі перад сабой тыя, хто зрабіў спробу стварыць беларускую армію. Як сёння ўяўляецца, гэта павінна была быць армія, якая б магла абараняць рэальныя інтарэсы беларускага народа і служыць апорай урада БНР. Але калі стала зразумела, што Пілсудскі мог дазволіць толькі стварэнне ўзброеных сіл для барацьбы з бальшавікамі і што ён не дапускаў думкі пра якую б там ні было самастойнасць БНР, беларускія патрыёты — і сярод іх Алесь Гарун — паставілі задачу не дапусціць стварэння такой арміі.

Барацьба працягвалася, прытым з пераменным поспехам. Але, бясспрэчна, сацыялістычныя ідэалы маладой Рэспублікі Саветаў маглі аказацца сугучнымі многім поглядам Алеся Гаруна як члена Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, што ў 1920 годзе апублікавала ў Мінску праграму, такую незвычайную па глыбіні аналізу грамадскіх працэсаў.

У перыяд вайны, ва ўмовах падполля, Алесь Гарун не заўсёды меў магчымасць адкрыта пра ўсё пісаць або гаварыць. А пасля вайны ён ужо не змог сказаць слова ў сваё апраўданне, бо волі так і не дачакаўся. Яго, зусім бездапаможнага, вывезлі санітарным цягніком у Кракаў, дзе ў ліпені 1920 года Алесь Гарун памёр.

# «І БУДЗЕ ЯСНЫ ДЗЕНЬ ДА НАС ТАДЫ БЛІЖЭЙ»

*Першы беларускі нарыс тэорыі сацыялізму ⁎ Прарочы погляд у будучыню ⁎ Да сацыялізму ў сельскай гаспадарцы — праз кааперацыю ⁎ Росквіт нацыянальнай культуры і развіццё эканомікі — адзіны шлях да інтэрнацыяналізму*

У Мінску Алесь Гарун жыў не ізалявана, не адасоблена, не ў адзіноце. Ён прымаў непасрэдны і актыўны ўдзел не толькі у літаратурным, але і ў грамадска-палітычным жыцці — і як адзін з кіраўнікоў Беларускай сацыялістычнай грамады *, і як удзельнік Усебеларускага кангрэса ў снежні 1917 года, і як рэдактар газеты «Беларускі шлях», і як старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта **, і як член Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі пасля яе ўтварэння ў сувязі з распадам БСГ. І ўсюды ён адыгрываў або галоўную, або адну з галоўных роляў.

Пра Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю мы сёння, па сутнасці, нічога не ведаем. Ад яе для гісторыі магла б застацца адна толькі назва, пазбаўленая рэальнага сэнсу, калі б яна не пакінула пасля сябе незвычайны дакумент — праграму грамадскіх пераўтварэнняў, апублікаваную асобнай брашурай пад назвай «Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя. Яе мэты і заданні. Папулярны

* *На III з'ездзе Беларускай сацыялістычнай грамады (кастрычнік 1917 года) Алесь Гарун быў выбраны адным з дванаццаці членаў ЦК БСГ — побач з С. Рак-Міхайлоўскім, А. Смолічам, Я. Дылам, З. Жылуновічам, Б. Тарашкевічам і іншымі.*

** *Часовы беларускі нацыянальны камітэт, заснаваны 10 жніўня 1919 года ў Мінску, уключаў радных Рады БНР (яе ўзначальваў Язэп Лёсік), а таксама прадстаўнікоў такіх арганізацый, як Культурна-навуковае таварыства, Хрысціянска-дэмакратычная злучнасць, Першае таварыства драмы і камедыі, Вучыцельскі беларускі хаўрус і інш.*

выклад праграмы». Яе аўтар схаваўся пад крыптанімам «А. Ж.»

Ва ўступным артыкуле да кнігі «Матчын дар», выдадзенай у 1962 годзе ў Мюнхене, паведамляецца: «Гаруну, пад тымі ж ініцыяламі А. Ж., належыць і брашура «Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, яе мэты і заданні», надрукаваная ў Менску, у друкарні «Інвалідаў» у 1920 г.» Аўтар уступнага артыкула Антон Адамовіч у 20-я гады сустракаўся з Язэпам Лёсікам, які да рэвалюцыі адбываў ссылку ў Сібіры разам з Гаруном. Гэта давала нам падставу на нейкім этапе лічыць аўтарам праграмы Алеся Гаруна.

Аднак апошнім часам маскоўскі вучоны Аляксей Каўка прывёў важкія аргументы на карысць таго, што праграма напісана Аркадзем Смолічам. Аўтарства яго пацвярджае Браніслаў Тарашкевіч у аўтабіяграфіі, якая захоўваецца ў Цэнтральным партархіве Інстытута марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС. І захаваўся тэкст праграмы, напісаны рукой Смоліча. Такім аргументам нельга не верыць.

Пра гісторыю стварэння праграмы практычна нічога невядома. Але ёсць падставы меркаваць, што яна з'явілася плёнам калектыўнай творчасці аднадумцаў. У яе напісанні — ці ва ўсякім выпадку ў абмеркаванні і дапрацоўцы — мог прымаць непасрэдны ўдзел Алесь Гарун. Так ці інакш, у гэтым дакуменце ўвасобіліся погляды найбольш дальнабачных і патрыятычна настроеных палітычных дзеячаў беларускай зямлі, што на аснове марксісцкага вучэння і аналізу грамадскіх працэсаў распрацавалі сваю арыгінальную тэорыю сацыялістычнага будаўніцтва ў Беларусі, з улікам палітычнай і эканамічнай сітуацыі.

Узнікненню дакумента папярэднічала публікацыя праграмных і аналітычных артыкулаў Язэпа Лёсіка, Аляксандра Прушынскага, Аркадзя Смоліча. Кожны з гэтых аўтараў засяроджваў асноўную ўвагу на канкрэтных, найбольш блізкіх яму праблемах грамадскага жыцця: Лёсік — на палітычных, Прушынскі — нацыянальных, Смоліч — эканамічных. Але і ў паасобных публікацыях усе гэтыя праблемы разглядаліся ў іх адзінстве, узаемазалежнасці і развіцці.

«Папулярны выклад праграмы» заслугоўвае нашай асаблівай увагі з розных прычын. У святле сённяшніх працэсаў і падзей, тых правалаў у сельскагаспадарчай і наогул у эканамічнай палітыцы, што прымушаюць нашу краіну распрадаваць натуральныя багацці і сыравіну (адбіраючы іх гэтым самым у нашых нашчадкаў), каб забяспечыць народ хлебам,— трывожным папярэджаннем гучаць словы аб тым, якую шкоду можа прынесці паспешлівасць у сацыялістычным пераўтварэнні сельскай гаспадаркі: «Дробную сялянскую ўласнасць на зямлю знішчажаць зараз жа [...] мы лічым непатрэбным і нават шкодным [...] Яшчэ справа не наспела, яшчэ няма адпаведна падгатаваных працаўнікоў і арганізатараў. Калі б цяпер быў сацыялізаваны ўвесь вытвар, дык ён трапіў бы ў рукі ўрадоўцаў-прафесіяналаў (чыноўнікаў — *У. К.*), зложаных па большай часці з людзей, служыўшых старой бюракратыі. Не толькі сацыялістычны парадак быў бы абернуты ў нейкую пародыю, у «бюракратычны сацыялізм», але сам вытвар моцна абнізіўся бы, што прывяло б да эканамічнай катастрофы». Гэтыя прарочыя словы драматычна пацвердзіліся ў 30-я гады пасля завяршэння сталінскай калектывізацыі.

А. Ж. сцвярджаў, што для працоўнага сялянства шлях да сацыялізму ляжыць праз кааперацыю: «Дапамагаючы дробным гаспадаркам, іхняму развіццю і пашырэнню, мы ні на мінуту не павінны забывацца, што яны будуць мець дадатняе значэнне — і эканамічнае і сацыяльнае — толькі тады, калі звяжуцца між сабою ў кааператыўныя саюзы і грамады. Паасобныя дробныя гаспадаркі не могуць наладзіць належным спосабам ані збыту сваіх прадуктаў, ані куплі патрэбных са стараны. Сельскагаспадарскія палепшанні і, наогул, уся культурная і палітычная работа сярод паасобных гаспадароў пашыраюцца туга. Гаспадар-хутарнік часта робіцца глухім да ўсякай новай паступовай (прагрэсіўнай.— *У. К.*) ідэі, сляпым на чужую бяду, нячулым да грамадзянскай, супольнай справы, набывае прыкметы дробнай буржуазіі.

Саўсім іншы абраз уяўляюць з сябе тыя самыя гаспадары, злучаныя кааперацыяй. Яны разам купляюць, разам прадаюць свае вырабы. Яны маюць

супольныя машыны, нават цэльныя заводы (напр.: маслабойныя, крахмальныя), супольныя і іншыя агульнапатрэбныя ўстановы. Гаспадаркі іхнія квітнеюць, пашыраецца асвета і сведамасць, а, што найважней, ствараюцца моцныя прызвычаенні да грамадскага, супольнага жыцця і працы. Каапераця прыгатаўляе рэальных, практычных працаўнікоў і арганізатараў будучага сацыялістычнага парадку».

Знаёмячыся з гэтым дакументам, мы непазбежна будзем звяртацца думкай да ленінскага артыкула «Аб кааперацыі», напісанага ў пачатку 1923 года: «Уласна кажучы, нам засталося «толькі» адно: зрабіць наша насельніцтва настолькі «цывілізаваным», каб яно зразумела ўсе выгады ад пагалоўнага ўдзелу ў кааперацыі і ажыццявіла гэты ўдзел. «Толькі» гэта. Ніякія іншыя прамудрасці нам не патрэбны цяпер для таго, каб перайсці да сацыялізму. Але для таго, каб здзейсніць гэтае «толькі», патрэбны цэлы пераварот, цэлая паласа культурнага развіцця ўсёй народнай масы»,— пісаў У. І. Ленін.— «Але каб дасягнуць праз нэп удзелу ў кааперацыі пагалоўна ўсяго насельніцтва — вось для гэтага спатрэбіцца цэлая гістарычная эпоха. Мы можам прайсці на добры канец гэту эпоху ў адно— два дзесяцігоддзі. Але ўсё-такі гэта будзе асобая гістарычная эпоха...» *

Асабліва плённымі і актуальнымі для нашага часу з'яўляюцца высновы праграмы па нацыянальных праблемах. Яны як быццам спецыяльна прызначаны для сённяшніх дзён: «Тварыць па за межамі нацыянальнасці немажліва. І народ, звольнены ад капіталістычнага вызыску (эксплуатацыі.— *У. К.*), так сама, як і ў цяперашнія часы, будзе выяўляць сваю найвышэйшую творчасць у нацыянальных формах. А значыць і ўселюдзкі прагрэс, які ёсць творчасцю перад усім, будзе йсці нацыянальнымі шляхамі і прывядзець ніякім чынам не да асіміляцыі народаў, а толькі да вышэйшай формы іх згоднага жыцця, працоўнага Інтэрнацыяналю». «У царства сацыялізму ўвойдзе беларускі народ, як роўны з іншымі народамі толькі пры варунку

* *Ленин В. И. Полн. собр. соч. Т. 45. С. 372—373.*

развіцця ўсіх бакоў яго духоўнага жыцця, што магчыма толькі ў рамках нацыянальнай культуры».

Глыбіню палажэнняў, сфармуляваных аўтарам праграмы, з усёй перакананаўчасцю паказаў наш час, эпоха перабудовы, што выкрыла сапраўдную беззмястоўнасць многіх даклярацый і лозунгаў, якія мы абавязаны былі прызнаваць за ісціны ў апошняй інстанцыі.

У дакуменце былі абгрунтаваны некаторыя ідэі, за ажыццяўленне якіх мы настойліва змагаемся і сёння. Можа яшчэ больш востра і надзённа, чым тады, гучаць наступныя словы аўтара: «Сацыялісты разумеюць нацыянальную справу не як прычыну нянавісці да іншых народаў, а як моцную пабудку да працы на карысць усіх людзей свету. Бо толькі тыя людзі, што ахвяравалі сябе таму ці іншаму народу, зрабілі вялікую работу для ўсяго свету; тыя ж, што хваляцца, нібы яны працуюць для ўсяго свету (касмапаліты) звычайна шмат гавораць і нічога не робяць [...] ...Задача сацыялізму, які ніколі не йдзе проці прыроднага развіцця справы,— ёсць не клапаціцца аб зніштажэнні нацыянальных асобнасцяў, а наадварот, культываваць іх, як усякую іншую прыродную сілу. Затое задачаю сацыялізму ёсць клапаціцца, каб розніцы ў псыхалёгіі, у нацыянальнай творчасці не служылі асноваю спрэчак і барацьбы паміж народамі».

«Папулярны выклад праграмы» паказвае, якога ўзроўню дасягнула грамадская думка Беларусі той пары, як пад уплывам марксісцкіх ідэй выпрацоўваліся ўласныя канцэпцыі развіцця беларускай нацыі на сацыялістычных шляхах. Тым, хто прытрымліваўся такіх поглядаў, нескладана было пасля заканчэння грамадзянскай вайны пераходзіць на пазіцыі савецкай улады і актыўна ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве. Праўда, сам А. Гарун гэтага зрабіць не паспеў. Але яго аднадумцы і сябры Я. Лёсік і А. Смоліч пасля канчатковай перамогі савецкай улады аддавалі ўсе сілы справе развіцця нацыянальнай навукі і культуры.

# «ЦЯКУЦЬ РАДКІ ЗВІНЮЧЫХ СЛОЎ...»

*Хто мы такія, і чаго нам трэба саромецца? * Першыя астрожныя творы * Пачатак сібірскай эпапеі * Прыгоды «Матчынага дару» * Верш «Людзям» і традыцыі паэтычных маніфестаў * Духоўная сувязь з радзімай * Першае рэха сусветнай бойні ў нашай літаратуры * Сібірскія напевы: на новым паэтычным узроўні*

Нейкай загадкай успрымаецца тая акалічнасць, што Алесь Гарун, дваццацігадовы рабочы, як быццам не звязаны з культурным асяроддзем, трапіўшы ў астрог, адразу ж заняўся літаратурнай творчасцю. Гэты выключны выпадак можна было б лічыць незразумелым, калі б да нас не дайшло апавяданне вершам «Мае коляды», датаванае 13 студзеня 1905 года і падпісанае псеўданімам А. Сумны. Як сцвярджаюць сучаснікі і першыя даследчыкі пісьменніка, гэта быў адзін з псеўданімаў Алеся Гаруна, якому ў час народзінаў твора не споўнілася яшчэ і 18 гадоў. (Праўда, чамусьці з вершаў, апублікаваных пад псеўданімам А. Сумны, ніводзін не трапіў у зборнік «Матчын дар»).

Паэтычны ўзровень (мастацка-вобразная сістэма, асаблівасці рытмікі, рыфмаў) «Маіх калядаў» (умоўна назавём іх паэмай) далёка не той, якім характарызуюцца пазнейшыя вершы Алеся Гаруна. Аднак нельга забывацца, што ў студзені 1905 года ў нас яшчэ не было ні сваёй перыёдыкі, ні друкаваных твораў Цёткі, Купалы ці Коласа, не было той нацыянальнай паэзіі, якая магла б служыць надзейным маяком.

Вядома, шмат хто пісаў на рубяжы XIX і XX стагоддзяў. Але напярэдадні першай рускай рэвалюцыі ні адзін з іх твораў не мог набыць шырокага грамадскага рэзанансу і ўключыцца ў літаратурны працэс, бо ўсе яны пакуль што яшчэ чакалі свайго часу, і ніхто з аўтараў не мог мець упэўненасці, што такі час наступіць.



*Першы вядомы партрэт (1907 год). Такім быў малады сталяр Алесь Прушынскі, калі трапіў у турму за рэвалюцыйную дзейнасць*

Въ гор. Минскъ

Входящаго № 10651 Назначено на

Настольнаго № 95. Защитникъ

ВИЛЕНСКОЙ СУДЕБНОЙ ПАЛАТЫ,

ПО УГОЛОВНОМУ ДЕПАРТАМЕНТУ,

съ участіемъ сословныхъ представителей

ДѢЛО

Поступило августа 190 года.

Рѣшено 190 года

На 151 листахъ.

Архивн. №

*Вокладка судовай справы сацыяліста-рэвалюцыянера Алеся Прушынскага*

*Сябры па сібірскай ссылцы Язэп Лёсік і Алесь Гарун на Ленскіх залатых капальнях (Бадайбо, 1914 год)*

**РАЙОННАЯ ОРГАНИЗАЦІЯ СОЦІАЛИСТОВ-РЕВОЛЮЦІОНЕРОВ МАКСИМАЛИСТОВ.**

„Борись за право и полный продукт труда“
(Агитаціонный листок)

**КО ВСѢМ ТРУДЯЩИМСЯ.**

[illegible]

*Фрагмент адозвы эсэраў «Да ўсіх працоўных». У часе друкавання яе быў арыштаваны Алесь Гарун*



*Антон Луцкевіч — палітычны дзеяч, публіцыст, літаратурны крытык, адзін з кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі. Здымак з прыватнага архіва Лявона Луцкевіча*



*Вацлаў Ластоўскі — палітычны дзеяч, вучоны, адзін з арганізатараў літаратурнага жыцця, будучы аўтар манументальнай «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі», выдадзенай у 1926 годзе ў Коўне*



*«Беларуская хатка» ў Мінску — асяродак беларускага нацыянальна-культурнага жыцця. Рэканструкцыя мастака Віктара Сташчанюка паводле матэрыялаў з архіва Зоські Верас*



*Унутраны выгляд «Беларускай хаткі». Рэканструкцыя Віктара Сташчанюка*




*«Матчын дар» — адно з найвыдатнейшых дасягненняў беларускай паэзіі пачатку XX стагоддзя*



*Алесь Гарун і Янка Купала ў Мінску (1920 год). Фрагмент здымка, апублікаванага ў часопісе «Родныя гоні» (1927 год, № 1)*

# Памяці Алеся Гаруна.

## Живыя акорды.

Спакойна сьпі, пясьняр, далёка на чужыне...
На што пакінаў край, які быў сэрцу міл?
Ці можа ты хацеў, каб на палёх краіны
Стаяла менш крыжоў і менш было магіл?..

* * *

Кахаў ты родны край, дзе цемра, зьдзек пануе;
З народам плакаў ты, як лепшы яго сын...
Цяпер ты замаўчаў... А ўсё-ж акорды чуе
Гаротны люд... Ня змоўк іх дзіўны гымн.

* * *

У акордах чуюцца ўсё сумныя напевы:
Адбітак тваіх дум—ў іх можна угадаць,
Шмат жальбы ў іх чуваць, і радасьці, і гневу.
І звоны ланцугоў нявольніка чуваць.

* * *

Ты сьпевам разбудзіў народ свой на прадвесьні,
Якому на аўтар свой дыямэнт прынёс...
Яшчэ акорд ня змоўк тваей прыгожай песьні,
Хоць струны абарваў жыцьця паганы лёс.

* * *

Лье сьлёзы па табе народ і гай і поле
І верачь у прамень, які ты ўсім наслаў...
Акорды будуць жыць—твой дар, паэт—на волі,
А з імі будзе жыць, хто плакаў і стагнаў...

**М. Чарот.**

* * *

*Верш Міхася Чарота, прысвечаны памяці Алеся Гаруна. Надрукаваны ў часопісе «Вольны сцяг» (1921 год, № 1)*



*Гаўрыла Гарэцкі на магіле Алеся Гаруна ў 1926 годзе. З архіва сям'і Гарэцкіх (друкуецца ўпершыню)*

# THE IMAGES SWARM FREE

A BI-LINGUAL SELECTION OF POETRY
by
MAKSIM BAHDANOVIČ, ALEŚ HARUN
and
ŽMITROK BIADULA

Translated by *Vera Rich*

Edited with an Introduction by *Arnold McMillin*




THE ANGLO-BYELORUSSIAN SOCIETY
LONDON 1982

*Тытульны аркуш зборніка паэзіі М. Багдановіча, А. Гаруна і З. Бядулі* «The Images Swarm Free» *на беларускай і англійскай мовах*

## TO PEOPLE

I love the vault of stars above,
The earth so broad, so long,
The flat field, the humped hills I love,
The forest and its song.
And I love life, and folk, indeed,
The forms their souls imply,
I love to braid from hopes a wreath,
But I'm no poet. Why?

Some days my work keeps on the boil,
I slave away the time,
Until my shoulders creak with toil . . .
Your heart will hear the chime,
You catch at one sound, you catch twain,
And more and more they throng,
Until they merge in one great train,
Ringing the whole day long.
The day is burned out. Home I go,
Off to bed. But at night
The lines of ringing notes still flow.
Sleep departs. Then I write.
Before my eyes in a great pack
The images swarm free.
And someone stands behind my back,
It seems, so close to me.
A pair of arms my neck entwine,
The silk of a girl's braids,
The heart beats stronger, and the chime
In the soul does not fade . . .

I look: the room is empty quite . . .
Time, like a snake, slid by,
Beyond the window fades the night . . .
But I'm no poet . . . Why?

*Верш «Людзям» у перакладзе англійскай даследчыцы і паэтэсы Веры Рыч са зборніка* «The Images Swarm Free» *(Лондан, 1982)*



*Помнік на магіле А. Гаруна на Ракавіцкіх могілках у Кракаве, пастаўлены ў 1988 годзе. Месца пахавання паэта адшукаў энтузіяст беларускай гісторыі і культуры супрацоўнік Кракаўскага ўніверсітэта Алег Латышонак*

Алесь Гарун пачаў пісаць вершы змалку, праўда, спачатку на рускай мове і пераважна ў гумарыстычным тоне, як сведчыць Максім Гарэцкі. Даследчык, трэба меркаваць, ведаў гэтыя факты з першых рук, ад самога аўтара «Матчынага дару». «Гісторыя беларускае літаратуры» Гарэцкага — адзіная крыніца, у якой мы можам знайсці хоць якія звесткі пра пачатак творчага шляху Алеся Гаруна.

Звернемся да гэтай крыніцы. Там, у прыватнасці, сказана: «Пісаць па-беларуску Гарун пачаў ад 1905 г., а беларускае друкаванае слова першы раз пабачыў у 1903 ці 1904 годзе, выпадкам знайшоўшы абадраную, запэцканую, без пачатку і канца, цікавую кніжку, друкаваную лацінкай. Як надта вялікі ахвотнік да чытання і ўважны цікун усякага друку, ён пачаў чытаць і гэтую кніжку, думаючы, што яна польская. Але з першых жа прачытаных словаў незвычайна здзіўлены хлапец пачуў, як неўспадзеўкі закалацілася ў яго сэрца, на вачох, нямаведама чаго, накруціліся слёзы. Перад вачмі было тое, чаго ніколі не бачыў: сваё роднае, хатняе друкаванае слова! Гэта было, як паэт пазней даведаўся, старое выданне аповесці «Гапон» Марцінкевіча. У 1905—1906 гадох напісаў ён і пашыраў сярод моладзі і работнікаў колькі сацыяльна-рэвалюцыйных вершаў, цяпер згубленых ці нікім яшчэ не знойдзеных («Чаму так, скажэце, жывецца на свеце?» і інш.). Тады на яго мелі ўплыў вершы Цёткі, ейныя ананімныя адозвы і лістоўкі, якія разам з «Нашаю Ніваю» і рознай агітацыйнай літаратурай пашыраў Прушынскі» *.

У такіх умовах, па сутнасці, паралельна і адначасова з першымі спробамі Цёткі, Купалы, Коласа ўзнікаюць і творы маладзейшага за іх Гаруна.

Паэма «Мае коляды» (яна выйшла асобным выданнем у Вільні ў 1920 годзе) — гэта гісторыя (праўда, не надта матываваная і пераканаўчая) неспадзяванага абуджэння нацыянальнай свядомасці ў беларускага сялянскага хлопчыка. Ён быў запрошаны на каляды да багатага школьнага сябра

---

* *Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. С. 187.*

Казюка і сустрэў свята ў асяроддзі паноў, ад якіх яму спачатку хацелася схаваць сваё паходжанне. Але потым стала сорамна за свае думкі і паводзіны:

Стала стыдна мне стыду...
. . . . . . . . . . . . . .
Застыдаўся я — кога?
Свайго роднага таты!
Свае роднае хаты!
Сваей роднай сярмягі!
Сваей роднай павагі!
Свае роднае мовы —
Беларускай — вясковай!

Тут ужо вызначылася тэма, якая пазней заняла ва ўсёй творчасці Алеся Гаруна адно з найбольш ганаровых месцаў — патрыятычная тэма барацьбы за абуджэнне нацыянальнай свядомасці і чалавечай годнасці беларускага селяніна.

Першы верш Алеся Гаруна «Маці-Беларусі» пабачыў свет у «Нашай Ніве» ў 1907 годзе ў 23-м нумары. (Акадэмік Карскі памыліўся на адзін год і пісаў пра 1906 год.) Затым у наступным, 1908 годзе з'явіліся яшчэ два вершы: у 21-м нумары — «Януку Купале» і ў 23-м — «Начныя думкі». Першы з гэтых твораў пакуль што яшчэ не мог захапіць чытача сваім мастацкім узроўнем, але і ён павінен быў прыцягваць да сябе ўвагу тым пачуццём любві да роднай зямлі, што вызначалася непасрэднасцю і нейкай вобразнай адметнасцю.

«Януку Купале» — гэта паэтычны водгук на купалаўскую «Жалейку», блізкі па мастацкай форме, па асаблівасцях рытму і рыфмы да твораў, змешчаных у зборніку.

Самабытная творчая манера найбольш выразна вызначылася ў трэцім вершы. «Начныя думкі» — гэта прачулы ўспамін аб родных мясцінах, да якіх лірычны герой можа вяртацца толькі ў сне і ў нязбыўных летуценнях. Тут ява пераплятаецца са сном, а рэчаіснасць з казкай. Бо само звычайнае, рэальнае жыццё — па ўсім відаць, што яно засталося недзе там, у мінулым,— з'яўляецца такім жа недасяжным, як і казка. І лірычнаму герою застаецца толькі адно права, якога ніхто ў яго не можа забраць,— вяртацца ў родны край ва ўспамінах ды яшчэ ў думках весці з ім гутарку-малітву:

Дай мне зрабіцца крынічкай лясною,
Бераг вадой абмываць, цалаваць;
Дай мне век цэлы дружыці з табою,
Хвойкі і зоры ў сабе адбіваць!
Дай мне купальскую кветку ў рукі,
Рукі скаваныя мне развяжы,
Дай ты мне зелля на гора і мукі,
К шчасцю гасцінец мне дай, пакажы!

Перад першай сусветнай вайной і ў пачатку яе вершы і апавяданні, празаічныя і вершаваныя, друкаваліся ў «Нашай Ніве», калектыўных зборніках, календарах, а таксама ў газеце «Беларус».

Паэтычная спадчына Алеся Гаруна складаецца са зборніка «Матчын дар», напісанага да жніўня 1914 гдоа (і сур'ёзна дапрацаванага ў больш позні перыяд), і вершаў, апублікаваных раней і пазней пад псеўданімамі А. Гарун, А. Сумны, а таксама, мабыць, Сальвэсь.

Без уліку спадчыны паэта наша ўяўленне аб літаратурным працэсе гэтага перыяду было вельмі збедненае. Выпала якраз тое звяно, якога ніхто нічым замяніць не мог. Бо Алесь Гарун паказаў бесчалавечны, антыгуманны характар вайны адразу пасля яе пачатку, калі яна яшчэ не паспела спустошыць беларускую зямлю агнём і мячом, заліць яе крывёю:

Сорам і ганьба для свету вайна,
Як ні мяркуй, ні круці,
З боскіх законаў смяецца яна...
(*«Праводзіны»*)

Гэта было сказана ў жніўні 1914 года. А дзе яшчэ мы знойдзем такі маральны кодэкс паводзін чалавека на вайне, заснаваны на шматвяковым гуманістычным вопыце,— як у вершы «Праводзіны»? Тут быццам прадугледжваецца магчымасць братання салдат варожых армій і бачыцца агульнасць іх чалавечага і салдацкага лёсу. У наказе навабранцу берагчы сумленне ў любых умовах, бачыць у асобе варожага салдата перш за ўсё чалавека, які таксама ідзе ваяваць не па сваёй волі, выяўляецца гуманістычнае светабачанне аўтара, яго непаўторная здольнасць увасобіць у мастацкім слове найбольш каштоўныя прынцыпы народнай маралі, тыя прынцыпы, якія аказваюцца непадуладнымі афі-

цыйнай дзяржаўнай шавіністычнай ідэалогіі. Разам з тым няма ў паэта апраўдання для баязлівасці: «Смелага сэрца не колюць штыкі, кулі яго не праб'юць».

Верш «Праводзіны», зборнік «Матчын дар», як наогул і ўсе паэтычныя, празаічныя, драматычныя творы пісьменніка, доўгі час выкрэсліваліся з гісторыі нашай літаратуры. А між тым яны значна пашыралі яе ідэйныя, тэматычныя абсягі і жанравыя рамкі. Зусім новыя абрысы і новыя формы набывае ў пісьменніка тэма духоўнага ўзбагачэння беларускага народа, росту яго нацыянальнага і патрыятычнага ўсведамлення.

Зборнік «Матчын дар» можна паставіць побач з такімі кнігамі, як «Шляхам жыцця» (вяршыняй усёй беларускай дакастрычніцкай паэзіі) і «Вянок». Ён з'яўляецца адным з найвыдатнейшых паэтычных дасягненняў дакастрычніцкай пары, хоць воляю лёсу пабачыў свет толькі ў 1918 годзе.

У апошнім варыянце вершаў адчуваецца рэдактарская рука аўтара. Вядома, некаторыя праўкі маглі быць унесены ў 1914 годзе, але ёсць змены, дапушчаныя не раней, чым у 1917 годзе. Як бы там ні было, «Матчын дар» — жывое звяно нашага дакастрычніцкага літаратурнага працэсу. Усё ў зборніку ідэйна і тэматычна звязана з эпохай пярэдадня першай сусветнай вайны. Праўда, у некаторых вершах адчуваецца і подых новага часу, пачатак якому паклала векапомная Лютаўская рэвалюцыя.

У беларускай паэзіі пачатку XX стагоддзя шмат праграмных вершаў, або «песень аб песнях». Аўтары ставяць у іх канкрэтныя задачы перад сабой, перад нацыянальнай літаратурай у цэлым, палемізуюць з ідэйнымі праціўнікамі, раскрываюць свой эстэтычны ідэал. Такія творы ёсць і ў Алеся Гаруна. У нейкім сэнсе блізкім да праграмных можна лічыць верш «Людзям», якім адкрываецца зборнік і ў якім аўтар непасрэдна звяртаецца да чытачоў. Гэта свайго роду прадмова ці, можа, нават споведзь з выяўленнем асабістых перажыванняў. Часта здараецца, што паэт хаваецца за лірычнага героя, перадавярае яму свае думкі і пачуцці. А ў вершы «Людзям» мы чуем голас самога аўтара.

У свой час Янка Купала ў першым вершы збор-

ніка «Жалейка» «Я не паэта» спецыяльна падкрэсліваў, што да чытача звяртаецца не проста нейкі фіктыўны, неакрэслены лірычны герой, а іменна ён сам — Янка Купала, які не шукае ў сучаснікаў ці нашчадкаў ні славы, ні гонару, ні ўзнагарод і жыве на свеце з адной толькі марай, з адным жаданнем — хоць некалі пабачыць долю «ў родным народзе». Пакуль што яшчэ ён сціпла абвяшчае: «Я не паэта, о крый мяне божа! Не рвуся я к славе гэткай німала». І толькі больш чым праз дзесяцігоддзе, маючы вялікія здзяйсненні ў паэзіі і драматургіі, ён будзе мець права з гонарам сказаць: «Цяпер беларускай я песні ўладар».

У вершы «Людзям» Алесь Гарун не менш сціпла, чым калісьці Янка Купала, гаворыць, што ён «не паэт». Між тым ён ужо даваў на суд грамадскасці такі своеасаблівы і незвычайны зборнік — жывое сведчанне мужнасці, вытрымкі, волі і патрыятычнага пачуцця, непадуладнага ніякаму насіллю, ніякім намаганням вытравіць яго з душы паэта.

Аўтар не ставіць яшчэ ні перад сабой, ні перад паэзіяй ніякіх спецыяльных задач, не патрабуе падзякі ці прызнання і не надта разлічвае на іх. Ён піша таму, што не можа не пісаць. Песні самі нараджаюцца ў душы, жывуць і звіняць на працягу ўсяго дня, запоўненага катаржнай працай. Сам паэт знаходзіцца ў палоне дзвюх рэальнасцяў: той працоўнай, калі «аж косць аб косць у плячу рыпіць», і ўнутранай, духоўнай, звязанай больш за ўсё і перш за ўсё з успамінамі пра бацькоўскі край і клопатам пра яго. Гэтыя ўспаміны нараджаюць у душы мелодыю, якую ніштo не можа заглушыць ці задушыць:

Пачуеш сэрцам звон...
Ухопіш зык, за ім другі,
За тымі больш ідуць,
Зліюцца ў шых даўгі-даўгі
І цэлы дзень гудуць.

«Па краю родным сум» як выяўленне непахісных патрыятычных пачуццяў — выток усіх вытокаў паэзіі А. Гаруна, тых твораў, што ўвайшлі ў зборнік «Матчын дар», усе вершы і паэмы якога пісаліся ў турме ці ў выгнанні.

Пакутуючы ў Сібіры, паэт падтрымліваў няспынны кантакт з родным краем. Здавалася б, ніякай прасветліны ў жыцці. Родная зямля—за многія-многія тысячы вёрст. Кожны яго крок быў пад пільным наглядам і кантролем. Законы абмяжоўвалі яго правы і жаданні. Але ні суд, ні турэмныя ці адміністрацыйныя ўлады думку і годнасць чалавечую яго скаваць не маглі. І былі бяссільныя вытравіць з душы пісьменніка любоў да свабоды, да роднага краю, матчынай мовы, да веры ў свой народ, у яго светлую будучыню:

Ты паўстанеш, працавіты,
Гаратнічы, невымоўны,
Шчасця, долі прагавіты,
Мой сланечны, мой чароўны.
Будзе час, пабачуць сведкі,
Хоць не мы, дык нашы дзеткі.
*(«*** Як надарыцца мінута...»)*

Вершы паэта, напісаныя ў Сібіры,— гэта водгулле пакуты і сімвал веры, споведзь і скарга выгнанніка, а таксама сведчанне нязломнай, непахіснай вытрымкі. І разам з тым — шчымлівае, неадольнае пачуццё духоўнай сувязі з роднай зямлёй, з усім тым, што на ёй адбываецца, а галоўнае — з тымі пераменамі, якія там наспяваюць, набіраюць сілы, з'яўляюцца вестунамі адраджэння дарагой сэрцу Беларусі.

Што мне багацце? Без грошай, без золата
Быў бы магнат я, кароль, багатыр
Там, дзе пад націскам роднага молата
Жыцце куецца углыб і ушыр.

Жыцце куецца, і сонца ўздымаецца,
Светла праменне ліецць з гарыні,
З доўгага сну дзе народ прачынаецца,
Побыту шчаснага свецяць агні.
*(«Думы ў чужыне»)*

Багата ў Алеся Гаруна песняў жальбы, сумных настрояў, плачу. Але ці можам мы яго дакараць за гэта? Больш мы павінны здзіўляцца яго вытрымцы. Ведаючы добра, што з ім магло б здарыцца ў тых умовах, ён больш за ўсё баяўся магчымасці страціць духоўную повязь з Бацькаўшчынай.

Страшна мне гэта, і ўсё ж не адзінае
Так навалiла, гняце ў глыбіне.—
Горшая мука ўтрапляець, што сынам я
Быць перастану сваёй старане.

Агнём у душы паэта гарыць пачуццё болю з-за таго, што ён не можа зрабіць для сваёй зямлі і свайго народа ўсяго, што хацеў бы, што трэба было б. Ён ні на хвіліну не дапускае думкі пра тое, што мог бы шукаць у жыцці лепшага, больш спакойнага лёсу. І ён меў права сказаць пра сябе:

Біўся з няпраўдай, з бядой і гаротаю,
Сэрца у попел няшчадна спаліў,
Сілы ўсе страціў у бойцы з цямнотаю,
Кроў, не рахуючы, кроў сваю ліў!

У завуаляванай форме, але ўсё ж даволі выразна, паэт паказвае, што ахвяры лірычнага героя і пакуты, якія выпадаюць на яго долю, не могуць быць дарэмнымі. Гэтая аптымістычная выснова, падмацаваная заклікам да дзеяння, да самаахвяравання, зноў гучыць ва ўрачыста-патэтычным, іншасказальным вершы «Навука». Настаўнік, звяртаючыся да вучня (называючы яго сынам), усёй сілай пераканання заклікае яго ісці наперад, па абраным шляху, не зважаючы ні на перашкоды, ні на пакуты:

І вось, калі табе трываць не хопіць змогі,
І цяжкім здасца крыж табе, і доля вельмі злой,
Не трэба, сын, шукаць лягчэйшае дарогі,—
Ідзі старой.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Ідзі хутчэй, слуга! Спавіты свет маркотай,
У ім крыўды легіён забраў зямлі апошнюю чвэрць,
Нясі ж свой праўдзе меч — Мой сын! Ідзі з ахвотай
На чэсць і смерць.

Ёсць у Алеся Гаруна алегарычныя творы з глыбокім філасофскім роздумам над кардынальнымі пытаннямі чалавечага быцця і грамадскіх працэсаў. Лірычнаму герою верша «Nokturno» Нядоля адкрывае вочы на глабальныя заканамернасці нашай рэчаіснасці: на бессмяротнасць жыцця, на непазбежнасць абнаўлення яго формаў, на вечны, нястрымны рух у прыродзе і грамадстве. Хоць лес восенню і замірае, але вясной ён заўсёды адраджа-

ецца. Так і пакуты людзей падрыхтоўваюць непазбежныя перамены і абнаўленне жыцця грамадства.

У паэзіі Алеся Гаруна такія энергія і дынамічнасць радка, страснасць пачуццяў, багацце і разнастайнасць рытму, рыфмаў, формаў мастацкай вобразнасці, нечаканых паваротаў думкі, што ён у гэтым дачыненні, як ніхто, бадай, у беларускай паэзіі, мог спаборнічаць з Янкам Купалам. У кожным радку пульсуе жывая думка, кіпіць пачуццё. У хвіліны натхнення паэт душой вырываецца з няволі, «яснай зоркай» нясе ў родную вёску кліч да змагання за волю і шчасце:

... Проч з дарогі!
Хто нам хоча заступіць?
Мы пайшлі, мы люд убогі,
Ўсё узяць ці ўсё згубіць...
(«*** *Эх сягоння, ў гэту ночку...*»)

Паэзія Алеся Гаруна — вобразна-філасофскае асэнсаванне найважнейшых грамадска-палітычных і гістарычных працэсаў, а таксама змен у побыце і свядомасці людзей. Пры чытанні некаторых яго твораў складваецца ўражанне, быццам аўтар нікуды ад роднай зямлі не аддаляўся і па гарачых слядах апісваў нейкія здарэнні, такія, напрыклад, як у вершы «Спрэчка» — сумна-гумарыстычным апавяданні пра бойку ў карчме ў дзень кірмашу, пра спрадвечную цемнату беларускага мужыка.

І што цікава — хоць Алесь Гарун нарадзіўся, вучыўся і працаваў у горадзе, але жыў справамі, клопатамі і ўсімі разнастайнымі праблемамі вясковага, засцянковага ці дробнамястэчковага асяроддзя. Бо толькі там магла пашырацца і знаходзіць зацікаўленага чытача дыдактычная аповесць пра паненку, якая захацела паваражыць у пост, што ледзь не скончылася для яе трагічна («Варожба»). Толькі ў часе доўгіх зімовых вечароў на вёсцы магла зберагацца і перадавацца павучальная гісторыя такой заслужанай смерці бессардэчнага і сквапнага мужыка Паўлючонка, які наздзекаваўся з абяздоленых жабракоў ды яшчэ прадаў душу нячыстай сіле («Канец Паўлючонка»). Такое ж самае паходжанне казкі пра гультаяватага і беднага Мацея,

які падмануў святога і пабачыў, што гэта — найбольш надзейны спосаб забяспечыць сабе дабрабыт. Некалькі пазней гэтую ж народную казку апрацаваў і Якуб Колас («Як Янка забагацеў»).

Гэтыя творы — сведчанне цеснай духоўнай сувязі з радзімай, якая ажывала ў яго паэтычных радках, успамінах, а, напэўна, таксама і ў гутарках са знаёмымі. На такую далёкую, але незабыўную радзіму паэт уцякаў бы шэрым воўкам, поўз бы вужакай ці ляцеў бы арлом, а то і вольным ветрам, які можа борзда трапіць усюды, куды яму толькі захочацца. Хацеў бы вярнуцца для таго, каб там, на месцы, сваёй працай, хоць і найбольш цяжкай, «каваць» новае жыццё «углыб і ушыр»:

Можа і я з сваёй слабаю сілаю
Там працаваці бы крышку памог;
З гэтаю працаю шчыраю, мілаю
Смерці спаткаў бы спакойна парог.

Можа... А можа не ўбачыці гэтага?
Можа суджона тут век мне пражыць?
Дні адзіноты, сіроцтва бяссветнага
Грудай каменняў ў душы валачыць.
*(«Думы ў чужыне»)*

Усё ж доля наканавала яму вярнуцца на родны парог. Вызваліла паэта Лютаўская рэвалюцыя.

# «ВЫЗВАЛЬ ДУХ СВОЙ, РАБСКІ ЛЮД!»

*Паэтычная творчасць на апошнім этапе ⁎ Патрыятычны пафас паэзіі ⁎ Вершы пра народ і для народа ⁎ Лебядзіная песня паэта ⁎ Незвычайнае багацце мелодый*

Пасля вяртання з Сібіры, у бурлівым віры падзей, калі на беларускай зямлі то пракочвалася кайзераўская ваенная машына, то зноў пад аховай войскаў Пілсудскага аднаўлялі такі вядомы ад стагоддзяў лад польскія памешчыкі, выгнаныя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй, у Алеся Гаруна ўзмацняецца пачуццё асабістай адказнасці за лёс роднага краю. Але якімі б трывожнымі ні былі падзеі, ніколі яго не пакідала вера ў жыццёвую сілу і вытрымку народа.

Народ — крыніца. Шмат лам'я
Кідала ворагаў сям'я
У крыніцу тую — цёк спыніць,
Каб жыцце смерцю замяніць.
І ўсё дарма: з варожых пут
Народ ўстае, як нейкі цуд.
*(«Народ»)*

Да гэтай тэмы паэт вяртаецца зноў і зноў, каб яшчэ раз пераканацца самому і пераканаць сваіх чытачоў, што ніякія буры, ніякія пажары, як бы яны ні бушавалі, не здолеюць загубіць жыцця на зямлі:

... Сцішыцца стыхія,
І на пяпловішчы пустым
Праб'юцца зернеты жывыя.
А з тых зярнят ізноў ўзрасце
Агнём ачышчаная воля,
І ў новых шатах расквіце
Пажарам знішчанае поле.
*(«Пажар»)*

Для ўвасаблення сваіх ідэй Алесь Гарун неаднаразова выкарыстоўваў біблейскія матывы і вобразы. Узяць хоць бы вершы са зборніка «Матчын дар» «*** Хрыстос нарадзіўся!..», «Малітва», «Паэту». Сваім зваротам да рэлігійнай вобразнасці або выкарыстаннем формы малітвы паэт падкрэсліваў непрымірэнчую супярэчнасць паміж абвешчанымі царквой патрабаваннямі і той рэчаіснасцю, якая бязлітасна прыгнятала простага чалавека, узаконьвала сацыяльнае зло і бяспраўе:

«Хрыстос нарадзіўся!» Ці ж мала мы чулі
Такую з нябёс абяцанку?
А вочы свае ледзь ад сну разамкнулі,—
Няма і не бачна паранку!

«Хрыстос нарадзіўся!» А дзе ж яго знакі?
Цяпер я Тамаш і не веру.
Здаецца мне свет, як і быў, адзінакі,
А ў ім лютаванне над меру.

*(«*** Хрыстос нарадзіўся!..»)*

Пераасэнсаванне біблейскага матыву мы знаходзім, у прыватнасці, у вершы «Самсон», апублікаваным у газеце «Беларусь» 28 лютага 1920 года з прысвячэннем «На соты нумар «Беларусі».

У залаты фонд сусветнай культуры ўвайшлі многія творы мастацтва, тэмай для якіх паслужыла асоба біблейскага асілка Самсона. Можна нагадаць гравюру ў скарынаўскім выданні «Книги Судей» «Самсонъ пресилный расторгалъ льва напути», славуты фантан у Петрадварцы пад Ленінградам «Самсон, які раздзірае пашчу льва», карціны Рубенса «Самсон і леў», Ван Дэйка «Самсон і Даліла», Мантэны (таксама «Самсон і Даліла») і інш.

Подзвігі Самсона, паводле біблейскіх паданняў, звязаны з эпохай войнаў паміж ізраільцянамі і філісцімлянамі. Ён адзін мог знішчыць тысячу ворагаў і заставацца непераможным, але да таго часу, пакуль на галаве ў яго зберагаліся валасы.

Быў ён вялікі аматар жанчын, што станавілася прычынай разнастайных прыгодаў. (Між іншым, і з ільвом ён сустрэўся, ідучы на спатканне са сваёй нявестай.) Але аднойчы ён выдаў сакрэт сваёй сілы чарговай палюбоўніцы філісцімлянцы Даліле. У часе сну яго абстрыглі, звязалі ланцуга-

мі, выдралі вочы і аддалі на здзек натоўпу, а затым кінулі ў склеп.

Неяк падчас свята ў вялікім храме філісцімляне прымусілі Самсона забаўляць іх ігрой на арфе, каб гэтым яшчэ больш яго зняважыць і зноў цешыцца сваёй перамогай. Але ў Самсона ўжо адраслі валасы, бог дараваў яму віну, а сам палоннік з малітвай і верай магутнымі рукамі разбурыў слупы, на якія абапіраўся храм, пахаваўшы сябе і тры тысячы філісцімлян.

У трактоўцы Алеся Гаруна Самсон — гэта ўсяго толькі палоннік і ахвяра здзекаў. За што ён пакутаваў — для аўтара не мае значэння. Для яго важна тое, што Самсон адрадзіўся духоўна, паверыў у свае сілы і, напружыўшы іх, не пашкадаваў сябе дзеля знішчэння ворагаў, якія гэтак саманадзейна святкавалі перамогу.

Тут выразна бачыцца глыбінны сэнс твора. Народ, які паверыць у свае сілы і не пашкадуе ахвяраў, не будзе цярпець зняваг. А жыццё ў няволі не мае сэнсу. Пакорлівасці ж не можа быць апраўдання. Вось так біблейскія матывы і вобразы садзейнічалі пашырэнню ідэйна-тэматычных рамак паэзіі Алеся Гаруна, увасабленню патрыятычных ідэалаў аўтара.

Пачуццё адказнасці перад часам і перад народам не слабела, не змяншалася ў Алеся Гаруна да канца яго дзён. Яшчэ ў зборніку «Матчын дар», у вершы «*** Думкі-дыяменты, краскі жыцця...» паэт уявіў сябе ў апошнюю хвіліну жыцця, з якім ён хацеў развітацца толькі песняй аб шчасці людзей:

Хай заспяваю аб сне залатым
Веку людскога радства,
Роўнасці, вольнасці, брацтва,— аб тым
Веку красы харaства.

Аб такой лебядзінай песні ён марыў для сябе. Такую песню ён і праспяваў. А называлася яна «Кліч». Сам паэт ужо, як той лебедзь, бачыў пад сабой бяздонне, але ў апошняй песні ўслаўляў «волі зычны звон», што будзіць народы «ўсіх старон» на штурм «крыўды трона».

Пры знаёмстве са зборнікам «Матчын дар» і

вершамі, апублікаванымі ў перыядычных выданнях, здзіўляе незвычайнае багацце і разнастайнасць інтанацый, мастацка-вобразных, лексічных, сінтаксічных формаў і такой рытмікі, якая часта не ўкладваецца ў прадугледжаныя, узаконеныя і апісаныя тэорыяй нормы і ўзоры.

Нам няварта забываць, у якіх умовах Алесь Гарун жыў і тварыў: пакутлівы быт пасяленца (уяўленне аб ім дае апавяданне «Свята»), невылечная хвароба (сухоты), а пасля вяртання на радзіму — клопат пра кавалак хлеба надзённага ва ўмовах вайны і акупацыі. Здавалася б, што яму можна было думаць толькі пра тое, каб неяк выжыць, утрымацца, спадзеючыся на нешта больш спрыяльнае ў будучым — пасля вызвалення з няволі, а потым пасля вайны...

Але ў песняра і ў тыя, такія цяжкія часы нараджаліся паэтычныя радкі, строфы, якія заўсёды дазвалялі яму ўвасабляць незвычайную думку ў непаўторным вобразе. Ён як быццам увесь час адчуваў над сабой няўхільную пагрозу, баяўся марна траціць той час, якога яму няўмольны лёс адвёў так скупа. Мабыць, таму не траціў сілы на стварэнне чагосьці неабавязковага, выпадковага. Амаль у кожным вершы Алеся Гаруна — нешта новае па змесце, форме, рытме, па інтанацыі, пачуццях, асаблівасцях кампазіцыі, вобразнай сістэме.

У яго радках набат і кліч («Гэй, народзе, трэба ўстаць, дух свой з рабства распрастаць!», «Вызваль дух свой, рабскі люд!») чаргуюцца то з заглыбленымі філасофскімі развагамі аб тайнах вечнага кругазвароту прыроды і заканамернасцях развіцця чалавечага грамадства, то з трывожным, часта такім пакутлівым, роздумам над нягодамі людзей або іх пакорлівасцю («Жыві ж спакойна, вол, хадзі ў сваім ярме... Сляпому добра ў цьме... А ты — жывёлаў цар? Ці ж ты жывеш іначай!..»). То зноў інтанацыі жальбы і смутку змяняюцца іскрыстым гумарам, вясёлым настроем гучнай і скочнай мелодыі «Мяцеліцы» («Ой, спалеце, перуны, майго Янку, бо дурны! Назаляе толькі мне, а каб сватацца, дык не!»). Чыста асабістае чаргуецца з шырокімі абагульненнямі, адсвечваецца ў іх. А потым раптам, зусім нечакана, сустракаем у паэта тое, што

адзін з даследчыкаў творчасці Адама Міцкевіча назваў свядомым звужэннем разумовых гарызонтаў апавядальніка да ўзроўню правінцыяльных слухачоў (ці чытачоў), як гэта мы бачым, напрыклад, у «засцянковай аповесці» «Варожба».

Ніякае пералічэнне не ахопіць усяго ідэйнага і інтанацыйна-рытмічнага багацця паэзіі Алеся Гаруна. Вось пра каго можна сказаць, што ён «з сталі каваў, гартаваў гібкі верш». Паэтычныя творы яго заўсёды будзілі «святое сумленне», і таму яны жылі ў свядомасці і пачуццях людзей нават і ў найбольш змрочную пару ганенняў і здзекаў з іх.

# ПРАЗАІЧНЫЯ АБСЯГІ

*Ад казкі пра Звыртала-музыку да казкі пра Панасава сяло * Фантастыка і рэальнасць * Апавяданні пра астрожны лёс * З клопатам пра нацыянальную справу * «Свята»: беларускія пасяленцы ў Сібіры * «П'ера і Каламбіна»: спрадвечныя загадкі быцця і кахання*

Хоць пра Алеся Гаруна пісалі, і зусім справядліва, што ён «не быў нічыім падгалоскам», аднак жа мы неаднаразова сустракаем у яго творчае пераасэнсаванне тых або іншых вядомых матываў — ці то далёкіх біблейскіх, ці больш блізкіх аўтару фальклорных або літаратурных. У некаторых выпадках пераклічка магла быць выпадковая («Шчасце Мацея» Алеся Гаруна з'явілася ў друку раней, чым апавяданне вершам Якуба Коласа «Як Янка забагацеў»). У іншых — пісьменнік свядома адштурхоўваўся ад нейкіх твораў, як гэта было з апавяданнем «У Панасавым сяле», апублікаваным у 1920 годзе. На гэтым прыкладзе мы можам бачыць адну вельмі важную заканамернасць беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя — яе станаўленне з апорай на свае і іншамоўныя традыцыі. Інакш кажучы, апавяданне дае магчымасць назіраць фармаванне жывога літаратурнага працэсу.

Сваімі вытокамі твор апасродкавана ўзыходзіць да казкі аднаго з буйнейшых польскіх пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя Казімежа Пшэрвы-Тэтмаера «Пра Звыртала-музыку», змешчанай у зборніку «На скалістым Падгаллі». У ёй апавядаецца пра музыку Звыртала, які, трапіўшы пасля смерці на неба, зачароўваў усіх граннем на скрыпцы. Гэтым самым ён парушыў традыцыйны лад быцця святых, якія замест набожных пачалі спяваць толькі зямныя песні з ваколіц Татраў. Таму гаспадары раю вырашылі пазбавіцца ад такога нявыгаднага прышэльца і адправілі яго зноў на зямлю.

Казку пра Звыртала паспрабаваў апублікаваць рускі гумарыстычны часопіс «Кривое зеркало», што выклікала небывалы перапалох у цэнзурным ведамстве. Калі герой твора беспакарана перайначвае парадкі на небе, дык чаму ж чытач не мог бы дапусціць, што і на зямлі можна таксама нешта мяняць? Нумар часопіса быў канфіскаваны, і казка да рускага чытача не дайшла.

У перапрацаваным выглядзе гэтая ж самая казка Тэтмаера пад загалоўкам «Дудар» у 1913 годзе была апублікавана ў «Нашай Ніве». Праўда, тут ужо героем яе з'яўляецца не жыхар далёкіх і чужых Татраў, а беларускі мужык з-пад Барысава. Але ў сваіх асноўных абрысах змест твора захаваўся.

Думаецца, што не без уплыву «Дудара» з'явілася апавяданне Змітрака Бядулі «Панас на небе». Панас — гэта паляшук, які пасля смерці трапляе на неба і паводзіць сябе там як чалавек, што не адмаўляецца ад сваіх звычак, поглядаў, уяўленняў і ўсюды адчувае сябе самім сабой. Ён бесцырымонны і грубаваты — такі, як у зямным жыцці. Перад яго патрабавальнасцю вымушаны скарыцца і святы Пётра, які ахоўвае нябесныя вароты. А тое, што Панас уцёк, згледзеўшы сваю жонку Тэклю, і заснаваў у адлеглым месцы новую вёску, якую пачалі засяляць яго землякі-палешукі. — яшчэ адно сведчанне таго, што і беларускі аўтар дазваляе сабе зусім свабодна заводзіць на небе такія парадкі, якія яму толькі ўздумаецца.

Алесь Гарун у гумарыстычным апавяданні «У Панасавым сяле» паказаў, якім яму ўяўляецца далейшы лёс героя твора Змітрака Бядулі. Сяло ператварылася ў рэспубліку, у якой праз нейкі час павінен быў з'явіцца свой прэзідэнт, і не абы хто, а Панасава жонка Тэкля. Яна, праўда, пакуль што сама там не паказвалася, але здалёк падбухторвала ўсіх, шмат шумела, шукала сваёй справядлівасці, гэта значыць помсты Панасу.

Што ўсё гэта значыць? Не так проста адказаць на такое пытанне. Але якой бы праставатай і няхітрай ні ўяўлялася гісторыя Панасавага сяла, у ёй адлюстраваліся падзеі, ад якіх у той бурны час пакутавала беларуская вёска, у тым ліку і Палес-

се, адкуль сяляне, па волі двух аўтараў, пачалі перасяляцца на неба.

На рэальным зямным Палессі адны акупанты змяняліся другімі. Як паведамляла тады газета «Беларусь», на Піншчыне асабліва жорстка распраўляліся з насельніцтвам дзянікінскія банды, якія беспакарана рабавалі, забівалі, без меры здзекаваліся з сялян. І той стары лад палескага жыцця,— які б ён ні быў раней, але ўсё ж спакойны, унармаваны,— пачаў разбурацца, перайначвацца. А што замест яго чакала людзей?

Алесь Гарун паказаў сябе арыгінальным майстрам кампазіцыі навелістычнага твора. Пра падзеі ў Панасавым сяле апавядальніку паведамляе нечаканы госць — чорт. Вельмі ж дакладна і дэталёва, можна сказаць, асабліва рэльефна, па ўсіх правілах і законах рэалістычнага мастацтва аўтар абмалёўвае яго выгляд.

Чаго варта, напрыклад, такое апісанне: «Чорны фрыдрыхаўскі траярогі капялюш ляжаў на каленях, а на ім адпачываў, скруціўшыся, як вужака, канец голага, ледзьве апушанага пільсцю хваста. Асвойчыўшыся са светам, я разглядзеў і твар. Цёмны, але не як мурымскі (мабыць, мурынскі, г. зн. чорны, негрыцянскі.— *У. К.*), даўгавіды, але не выцягнуты, пажылы і абвеяны, але не паношаны, з цвёрдасцю, але не жорсткасцю ў міне, ён, зліваючыся ў барве з гладкімі, коратка абстрыжанымі валасамі на галаве, выглядаў пекнай рамкай для пары цёмнанябескіх з чарнаватымі зрэнкамі вачэй, з якіх свяціліся не то глыбокая думка, не то яшчэ глыбачэйшая журба і агромністы, шалёны, нялюдскі розум». І так гэты неспадзяваны госць абмалёўваецца з ног да галавы.

Калі Алесь Гарун паказвае выгляд героя, то мы яго бачым, як на партрэце або зробленай добрым прафесіяналам фатаграфіі. Прытым дэталізацыя і дакладнасць у мастацкіх дробязях суседнічае з уменнем спалучаць, здавалася б, несумяшчальнае — у адным і тым жа творы ахапіць прыватнае і глабальнае, мясцовае і сусветнае. А каб пераканацца, што гэта так, нагадаем, як чорт адгукнуўся на навіны пра набліжэнне канца свету: «Проста, пане, некаторым амерыканам удалося на вайне

добра зарабіць, дык на канцы свету хочуць яшчэ лепей паправіцца. От і ўсё!»

Тлумачыцца ўсё гэта даходліва і проста: «Паглядзеце, што цяпер на біржах робіцца. Паперы, пане мой, цяпер папраўдзе паперамі сталіся, бо ўсякую вартасць згубілі, а чаму? Таму, што тысячы лёгкаверных, пачуўшы аб канцы свету, кінуліся ліквідаваць сваё менне. Гэ-ге! Ліквідацыя! Добрая выдумка. У Амерыцы гэтымі днямі ўжо трэцяя «Кампанія ліквідацыі» залажылася, і ўсе добра зарабляюць».

Каб перадаць арыгінальнасць мастацкага светабачання Алеся Гаруна, можна было б шмат цытаваць яго. Тым больш, што ніякі пераказ не перадасць так поўна і дасканала мастацкі каларыт твора, як жывое слова самога аўтара. І таму варта прывесці яшчэ адзін сказ, дзе паказваецца лёгкавернасць тых амерыканцаў, якія так ахвотна ліквідуюць сваю маёмасць: «Свет ашукаць — як хукнуць: раз, і скончана, і лаві рыбку. Пусціў качку ў газетную рэчку, і гатова, зроблен завод, пайшла машынэрыя! Ху-га-га, сколькі цяпер на вашым свеце качак гэтых на газетных хвалях пялёскаецца!»

Усяго толькі маленькі штрышок, маленькая рыска ў характарыстыцы капіталістычнага грамадства — і якраз там, дзе склаліся яго найбольш класічныя заканамернасці. Але як шмат гэтым сказана!

А якая тут сувязь з Палессем? Знешне як быццам няма ніякай. Аднак ва ўсім дыялогу чорта з апавядальнікам выразна бачыцца аўтарская пазіцыя: капіталістычны лад — гэта не найлепшы прыклад для пераймання.

А што яшчэ? Палохаць людзей чортам — гэта была старая, як свет, традыцыя. Але насуперак ёй шырока бытавала народная прыказка: «Не такі чорт страшны, як яго малююць». Пры расшыфроўцы глыбока схаванага сэнсу твора трэба мець на ўвазе гэтую акалічнасць. І не забывацца, што ўсе матэрыялы перыядычнага друку правяраліся вайсковай цэнзурай — адпаведнае паведамленне красавалася і ў нумарах газеты «Беларусь», той самай, у якой было апублікавана апавяданне «У Панасавым сяле».

Сёння мы заканамерна можам паставіць пытанне: якія ж «качкі», звязаныя з мясцовым жыццём, «пялёскаліся» на тагачасных «газетных хвалях»? Тым больш, што і сам чорт адразу ж рэзка пераключае гаворку з амерыканскіх падзей на беларускія. У перыяд грамадзянскай вайны і іншаземных акупацый шматлікія газеты на розных мовах — у тым ліку і беларускія выданні — палохалі чытачоў бальшавікамі, як канцом свету. І Алеся Гаруна, як аўтара апавядання, «качкі» мясцовай гадоўлі, трэба меркаваць, больш турбавалі, чым тыя далёкія, заакіянскія. А з твора неяк сам сабой напрошваецца вывад: ні чорта, ні казак пра канец свету, ні наогул усяго, чым газеты могуць палохаць даверлівага, неразборлівага і недасведчанага чытача,— няма чаго баяцца.

У творы арганічна спалучаецца рэальнасць і фантазія, трапная назіральнасць жыцця і выдумка, пераплятаюцца бытавыя і казачныя матывы. Жыццёва верагоднае дапаўняецца фантастычным і ў апавяданні «Маладое», герой якога, малады зняволены, расказвае, як цэлая іх група ўцякала з астрога і магла прайсці незаўважанай нават праз натоўп людзей.

З астрожнай тэматыкай звязана і апавяданне «Чалавек без крыві» — гісторыя чалавека, які ў астрозе страціў усе жыццёвыя сілы. Не знайшоў ён сэнсу жыцця і на волі, што непазбежна прывяло яго да самагубства.

У Алеся Гаруна ўсяго шэсць апавяданняў і невялікая празаічная лірычная легенда «Першы снег» — мініяцюрны шэдэўр аб першароднай чысціні душ і пачуццяў, якія жыццё змешвае з граззю, так, як гэта бывае і з першым, такім бялюткім і чысцюткім снегам. «Глядзіце вось у мільёнах часцінак спадае ён чысты і белы, без сказы (без заганы.— *У. К.*), як душы дзяўчатак, што з вёсак нашых ідуць у гарады іх; лягусенькі і мяккі, вясёлы, як птушка, у мільёнах часцінак іграе, блішчыць і падае, як тысячы моладзі нашай з мяккай вясёлай душой радасна ўступаюць у жыццё...

І вот паглядзіце — ужо ходзяць па ім, ужо топчуць нагамі і з граззю мяшаюць, і з брудам нячыстым...

Так топчуць яны і душу дзяўчаці і ціснуць у бруд жыццё моладзі нашай...»

Але твор гучыць не безнадзейна, ён заканчваецца аптымістычным акордам: «І от кажу я вам: колькі разоў я бачыў, як прыходзіць да нас першы снег, столькі разоў вочы мае заліваліся слязамі; і столькі разоў бачыў я, як за першым снегам з ветрам і бурай ішоў другі снег і ўсё нячыстае пакрываў на зямлі; і слёзы радасці цяклі тагды па маім твары».

У сваёй прозе Алесь Гарун не абышоў пытання пра лёс роднай мовы і нацыянальную самасвядомасць беларусаў. Шчырым патрыётам свайго краю, свядомым беларусам выступае галоўны герой апавядання «Пан Шабуневіч», напісанага ў канцы 1912 года і апублікаванага ў «Нашай Ніве», у № 6 за 1913 год (7 лютага). У творы паказваецца складаны, вельмі і вельмі няпросты лёс тых людзей, якія спрабуюць абараняць права роднай мовы на існаванне ў штодзённым жыцці. На іх долю выпадае шмат расчараванняў. Нават калі ў газетах з'явілася паведамленне аб праве дзяцей вучыцца на роднай мове, то і тут радасць прыхільнікаў беларушчыны аказалася неапраўданай. Апавядальнік з горкім жалем вымушаны быў — у каторы ўжо раз! — пераканацца: «Беларускую мову яшчэ раз выкасавалі з ліку родных моў; напісалі, што роднай мовай маіх дзяцей... павінна быць ці польская, ці расейская, ці жыдоўская, ці літоўская, ці іншая. Чаму ж яшчэ не прылучылі французскай, нямецкай, японскай, не ведаю. Усё ж нічога сабе мовы». Тут ужо ў разважаннях героя адчуваецца з'едлівая іронія.

З празаічных твораў Алеся Гаруна вылучаецца апавяданне «Свята». У ім абмалёўваецца адзін эпізод з жыцця ў Сібіры палітычнага пасяленца-беларуса. Начуючы ў незнаёмых людзей, ён выпадкова даведаўся, што цяжка хворая старая жанчына ў той сям'і — сястра яго роднай бабулі. Ён чуў пра яе яшчэ дома, але ніхто там не ведаў пра яе лёс.

Апавяданне выклікае цікавасць, з аднаго боку, рэалістычнай абмалёўкай жыцця пасяленцаў — і тут, бясспрэчна, нямала аўтабіяграфічнага — ды і побыту сібіракоў, іх нораваў і звычаяў.

А яшчэ ў творы — выпадкова ці невыпадкова — нейкім незвычайным матывам усплывае пераклічка рэвалюцыйных падзей розных гістарычных эпох. Малады пасяленец Грыневіч трапіў у Сібір за палітычную дзейнасць — трэба меркаваць, што за ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905—1907 гадоў. А галоўным і, па сутнасці, адзіным арыенцірам у часе для старэнькай жанчыны служылі колішнія паўстанні, з якімі перапляліся лёсы блізкіх ёй людзей. Так храналагічныя рамкі апавядання пашырыліся ў глыбіню мінулага стагоддзя — да 1863 і нават да 1830 гадоў.

Шырокія і прасторавыя рамкі падзей у творы. Хоць яго героі — па сваёй ці не па сваёй волі — трывала заснаваліся ў Сібіры, але і паходжаннем, і думкамі, і наогул духоўна яны звязаны з радзімай, з далёкай Беларуссю. Так вызначылася духоўная сувязь розных пакаленняў, што на далёкім выгнанні прыходзяць на змену адны другім, захоўваючы ў сэрцы вернасць роднай зямлі.

У шэрагу празаічных твораў пісьменніка асобна стаіць апавяданне «П'ера і Каламбіна». Гэта — своеасаблівы празаічны трыпціх, паасобныя часткі якога сюжэтна паміж сабой не звязаны. Яны аб'ядноўваюцца толькі агульнай тэмай кахання, мастацкім роздумам аб загадкавай сіле гэтага пачуцця і аб тых тайнах, якія то аб'ядноўваюць двух чужых людзей, то зноў утвараюць паміж імі непераадольную бездань. Толькі ў трэцяй, апошняй сцэнцы аўтар спрабуе наблізіцца да адказу на пытанне, чаму такое светлае, шчырае і бескарыслівае пачуццё даверу і кахання можа раптам развеяцца. П'ера не заступіўся за Каламбіну і за сябе, калі з іх пачалі абразліва смяяцца нейкія бамбізы. І гэтага было дастаткова, каб страціць павагу ў вачах дзяўчынкі і яе ласку.

Проза Алеся Гаруна надзейна абапіралася на нацыянальныя традыцыі літаратурнага і бытавога апавядання. Але адначасова яна неабмежавана пашырала рамкі традыцыйных формаў вобразнасці, мастацкага стылю, кампазіцыі. Зусім новая з'ява ў нашай літаратуры — форма трыпціха (наогул такой жанравай формы ў прозе тэорыя літаратуры нават не ведае) і спалучэнне рознамаштабных па-

дзей у рамках аднаго і таго ж твора, і нечаканае, зусім нетрадыцыйнае выкарыстанне фантастыкі ў рэалістычным апавяданні, і смелае ўвядзенне ў мастацкую літаратуру народных гутарковых лексічных, сінтаксічных, стылявых ці марфалагічных формаў, што не заўсёды адпавядалі нават тагачасным літаратурным нормам.

# КАЗАЧНЫ СВЕТ ПРАЎДЫ І ВЫСАКАРОДСТВА

*«Хлопчык у лесе»: трывожны «сон на кургане» * Казка ў казцы * «Шчаслівы чырвонец»: пра тое, як справядлівасць прыносіць шчасце, а зло караецца * «Дзіўны лапаць, або Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць»: яшчэ раз пра тое, як казачная фантастыка змагаецца за перамогу дабра*

Адметны талент Алеся Гаруна паспеў праявіцца не толькі ў паэзіі і ў прозе, але і ў драматургіі, у якой пісьменнік таксама спрабаваў свае сілы, прытым не менш паспяхова. Яшчэ ў кастрычніку 1912 года ён паведамляў з Сібіры ў рэдакцыю «Нашай Нівы» Вацлаву Ластоўскаму: «...Як урву якую вольную часінку, то пакладаю на пісанне драмы для беларускага тэатру. Драма ў вершах, з сучаснага нам жыцця і будзе мець тытул «Дэпутат». Можа крыху другі, але конча з «дэпут[ат]». Першы акт на-перша скончыў, пачаў другі, але калі ўсё давяду да канца — не ведаю». На вялікі жаль, ніякіх слядоў ад гэтай драмы не захавалася.

У самыя апошнія месяцы свайго жыцця Алесь Гарун узяўся за напісанне п'ес для дзіцячага тэатра. У 1920 годзе ён апублікаваў зборнік «Жывыя казкі», куды ўвайшлі тры п'ескі: «Хлопчык у лесе», «Шчаслівы чырвонец» і «Дзіўны лапаць, або Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць». З'явілася таксама ў друку і перароблёная з польскай мовы дзіцячая п'еса «Датрымаў характар». З гэтых твораў «Хлопчык у лесе» напісаны вершам, астатнія ж — прозай.

Стварыў «Жывыя казкі» пісьменнік, прыкаваны цяжкай хваробай да ложка. І тым не менш у іх пануе светлая атмасфера жыццесцвярджэння, аптымізму, нават лірызму, непрымірэнчасці да фальшу і несправядлівасці, да любых заганных з'яў у жыцці, у побыце, ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі.

Пішучы для дзяцей, Алесь Гарун асабліва дбаў пра чысціню маральных крытэрыяў, нормаў, пра выхаваўчае ўздзеянне казак на маленькіх чытачоў ці гледачоў.

Усе ўчынкі герояў ацэньваюцца ў адпаведнасці з патрабаваннямі найвышэйшых маральных нормаў. Бадай адна толькі сцэна з казкі «Хлопчык у лесе» ўспрымаецца ненатуральна і выклікае пачуццё незадаволенасці. Гэта — прызнанне маці, што яна наўмысна згубіла ў лесе свайго сына. Хоць пазней паказаны яе перажыванні і шчырае раскаянне, аднак само яе прызнанне пакідае непрыемны асадак, выклікае пачуццё расчаравання і вельмі прыкметна парушае гармонію, якая з першых слоў авалодвае чытачом. Гэта як быццам адна фальшывая нота ў тым суладдзі светлых пачуццяў, якія выпраменьвае незвычайная гісторыя прыгод хлопчыка.

Казка «Хлопчык у лесе» і сёння можа з'явіцца цікавай знаходкай для нашага тэатра. На яе аснове можна зрабіць мастацкі фільм. Гэта не патрабавала б асаблівай перапрацоўкі. І сам аўтар дазваляе ўносіць змены ў тэкст свайго твора. У прадмове ён выразна пра гэта піша: «...Я саўсім не буду пакрыўджаны, калі, гуляючы — паказываючы гэтыя казкі, вы штось у іх зменіце подлуг свайго ўпадабання, што-нішто дадасцё, што-нішто уйміцё».

Пры чытанні казкі «Хлопчык у лесе» міжволі ўспамінаецца драматычная паэма Янкі Купалы «Сон на кургане». І тут і там героі заблудзіліся ў цёмным дрымучым лесе, поўным небяспекі і нечаканых прыгод. І Саму (герою драматычнай паэмы Янкі Купалы) і Хлопчыку (з казкі Алеся Гаруна) лясныя фантастычныя істоты навяваюць сны, у якіх увасоблена казка іх долі. І нечым блізкім можна лічыць выкарыстанне такога незвычайнага для беларускай літаратуры мастацкага прыёму, які можна было б назваць шматступеннай казкай або пераводам дзеяння з адной казачнай рэчаіснасці ў другую, новую. У гэтым перш за ўсё прынцыповае, кардынальнае адрозненне твораў А. Гаруна ад традыцыйнай народнай і нават літаратурнай казкі.

Прыгоды Хлопчыка ўспрымаюцца як своеасаблівы «сон на кургане». Малы герой твора засынае,

заблудзіўшыся ў цёмным лесе. Але яго лёс не такі, як у героя купалаўскай драматычнай паэмы. Хлопчыку спагадаюць добрыя лясныя духі, увасобленыя ў вобразах кветак: Званочкаў, Незапамінайкі і Рожы (Ружы). Яны, як і русалкі ў творы Янкі Купалы, наслалі на нечаканага госця казачны сон. Але тут сон пабудаваны па законах традыцыйнай народнай казкі, дзе выразна, лагічна і паслядоўна ўзаемазвязаны ўсе ўчынкі і Хлопчыка, і тых дзяўчат, якіх ён неспадзявана выратоўвае з-пад улады магутнага злога чараўніка, выганяючы зачараванай жалейкай самога гаспадара заклятага царства.

Лес, у якім апынуўся і заблудзіўся Хлопчык, аказаўся ва ўладзе добрых, спагадлівых кветак-духаў. Гэтая з'ява не пярэчыць традыцыйным фальклорным уяўленням, згодна з якімі бары, балоты, рэкі, азёры заселены таямнічымі істотамі, што могуць з чалавекам зрабіць усё. Праўда, у асноўным гэта — сілы цёмныя, варожыя тым, хто неабачліва ці па волі неласкавага лёсу трапіць сюды.

У творы Алеся Гаруна існуе нетрадыцыйная, незвычайная сувязь паміж двума казачнымі светамі. Першы з іх — гэта лес з кветкамі-духамі. Дзякуючы іх спагадзе і дапамозе, Хлопчык трапіў у царства злога чараўніка і выратаваў запалоненых дзяўчат. Яго казачныя прыгоды можна было б лічыць усяго толькі сном — так першапачаткова падумаў пра іх і сам Хлопчык,— але якраз ён, прачнуўшыся, тут жа знайшоў усё тое, чым яму падзякавалі выратаваныя палонніцы: боты-скараходы, шапку-цемязень, залаты клубок, незвычайнае адзенне ды і жалейку.

Добрыя духі-кветкі былі сапраўднымі гаспадарамі лесу, у якім яны жылі. Яны ведалі таксама і тайны другога казачнага свету. Дзякуючы ім і там перамагла праўда, запанавала справядлівасць.

Многія творы тагачаснай сусветнай мадэрнісцкай літаратуры пісаліся з такім разлікам, каб ім можна было даваць самыя разнастайныя трактоўкі, каб кожны чытач мог бачыць у іх свой змест, тлумачыць іх па-свойму. У магчымасці такога, як самі аўтары лічылі, багацця інтэрпрэтацый і павінна была заключацца каштоўнасць мастацкіх вобразаў. Пры гэтым аўтараў, як правіла, зусім не цікa-

віў ідэйны змест, грамадскае ці маральнае значэнне твораў.

Зусім не тое мы бачым у казцы Алеся Гаруна: ідэйны змест і маральны сэнс яе ляжыць на паверхні, яны выяўляюцца ў разгортванні падзей, ва ўсёй атмасферы твора: бездапаможнае дзіця, якое згубілася ў лесе, можа выклікаць толькі спачуванне, а чытач ці глядач не можа не перажываць за яго лёс. І пакольні тут зусім выразнае размежаванне паміж сіламі дабра і зла, то і сімпатыі юных чытачоў ці гледачоў (а якраз ім казка адрасуецца) — на баку тых, хто церпіць крыўду, але не хоча з ёю мірыцца, марыць пра волю, шчасце.

Кожная з трох казак зборніка вызначаецца своеасаблівым, непаўторным каларытам. Агульным у іх можна лічыць толькі настрой — светлы, вясёлы або лірычны. У творах сцвярджаюцца высокія маральныя прынцыпы, выяўляецца нетрадыцыйнае выкарыстанне фальклорнай фантастыкі, якая нечакана ўрываецца ў звычайнае, рэальнае жыццё.

Вось казка «Шчаслівы чырвонец». Перад намі старая, спакутаваная, з хворымі, пакалечанымі нагамі Жабрачка — такі традыцыйны вобраз для тагачаснай беларускай рэчаіснасці і літаратуры, у тым ліку і для самога Алеся Гаруна.

Але ў казцы роля Жабрачкі не ў тым, каб скардзіцца, прасіць, вымольваць спагаду і літасць. Яна ходзіць па свеце, каб раскідаць чырвонцы, караць несправядлівасць, прыносіць радасць людзям, дарыць ім шчасце, абараняць праўду.

Чырвонцы, якія Жабрачка кідае на дарозе, прыносяць карысць толькі сумленным людзям. Калі імі спрабуе карыстацца хцівы падманшчык і махінатар Габрусь, яны ператвараюцца ў звычайныя медзякі. Затое да сумленнага і чыстага душой Гальяша чырвонец вяртаецца ў кішэню нават пасля ўсіх пакупак. Ды і купцы не пакрыўджаны, бо ў іх нечакана ўсе манеты ператвараюцца ў чырвонцы.

Вось так у змаганні дабра і зла, праўды і крыўды, махлярства і справядлівасці перамагае сумленнае, светлае, спагадлівае. Казка заклікана засяваць у душах маладых гледачоў разумнае, добрае, вечнае. А яшчэ ў ёй раскрываецца свет дзіцячых думак, уцех, гульняў, уяўленняў, паказваюцца —

прытым у сваім натуральным выглядзе — узаемаадносіны і характары дзяцей.

Зусім рэальнымі, звычайнымі бытавымі падзеямі пачынаецца і казка «Дзіўны лапаць, або Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць». «Порах» тут ужываецца ў значэнні «парахня», «смецце». Заканчваючы пералік дзейных асоб твора словамі: «Лапаць — але... хіба ж з лапця асоба», аўтар прымушае чытача ўсміхнуцца. Але пакуль што чытач не падазрае, што гэта і сапраўды асоба, ды яшчэ з якім норавам. Хоць і няма ў яго чалавечага аблічча, але ёсць характар, прытым своеасаблівы, з няспынна пераменлівым настроем, імпульсіўны, ганарлівы і ў той жа час спагадліва-добразычлівы, шчыры і непасрэдны. Гэты Лапаць незвычайна лёгка, ад аднаго неабачлівага слова можа пакрыўдзіцца. Дык асоба ці не асоба?

У казцы пра Лапаць — зусім неспадзявана — адлюстраваліся падзеі рэвалюцыйнай эпохі. Мястэчковыя злодзеі ідуць красці коней у маёнтак да пана, абабраўшы спачатку царкву і гаспадара. Для іх у жыцці яшчэ не адбылося ніякіх перамен. А тым часам пан з маёнтка уцёк, і тут ужо дзейнічаў камітэт. На месцах самачынна ўтвараліся органы народнай улады. Сяляне і батракі станавіліся гаспадарамі панскай зямлі і двароў, не чакаючы, пакуль ім гэта дазволяць ці загадаюць зрабіць. Якія гэта былі камітэты па характары або напрамку сваёй дзейнасці — аўтар не паказвае.

Казка яўна апярэджвала падзеі, бо на самай справе ў той час, калі яна стваралася і друкавалася, у маёнтках яшчэ гаспадарылі абшарнікі.

У вясёлым казачным жарце пра Лапаць-атопак, які даваў магчымасць Пастушку чытаць чужыя думкі і дапамог выкрыць мястэчковых злодзеяў, адлюстравана гістарычная эпоха карэнных сацыяльна-грамадскіх перамен.

Падагульняючы, можна сказаць, што ў кожнай казцы, у кожнай сітуацыі пісьменнік умее знайсці новы, нечаканы, часта супрацьлеглы традыцыйным уяўленням сэнс. Іх сапраўдная каштоўнасць для тагачаснага і сённяшняга чытача ў тым, што яны нязменна сцвярджаюць сапраўды гуманістычныя, высокамаральныя ідэалы. І гэтым яны блізкія да паэзіі, да ўсёй творчасці аўтара.

# ЗАКАНЧЭННЕ

Знаёмства з творчасцю Алеся Гаруна для нас толькі пачынаецца. Яшчэ не сабрана і належным чынам не асэнсавана яго публіцыстыка. Не абследаваны сібірскія архівы, ды і ў нашых, напэўна, нямала дакументаў чакае даследчыкаў. Мы дастаткова пераканаўча не можам паказаць эвалюцыю поглядаў паэта на сацыялізм, на пытанні нацыянальнага і сацыяльнага развіцця Беларусі. Але і сёння мы бачым выразна: гістарычная праўда аказалася на яго баку. Палемізуючы з «Маніфестам Камуністычнай партыі», даказваў ён беспадстаўнасць формулы «Работнікі не маюць бацькаўшчыны. Нельга пазбавіць іх таго, чаго ў іх няма». У артыкуле «Увагі да нацыянальнага руху» А. Гарун бескампрамісна выкрываў тое, што называў «вайной» «словам, агнём і мячом проці нацыянальнага адраджэння» і «хвальшывымі поглядамі на нацыянальнае пытанне і нацыянальны рух». Гэта была аргументаваная палеміка з ідэалагічнай платформай і палітычнай лініяй, якую ажыццяўлялі ў Беларусі Мяснікян і яго аднадумцы пад непасрэдным кіраўніцтвам Сталіна.

Даследчыкам яшчэ давядзецца шукаць адказу на многія пытанні і расшыфроўваць загадкі жыццёвага лёсу і творчасці паэта. Адно толькі вядома бясспрэчна: свайму народу і толькі яму пісьменнік аддаваў усе сілы, незвычайны талент, ахвяраваў маладое жыццё.

У вершы «Nokturno» Алесь Гарун пісаў:

Цячэць ручайка вось і ту ж не стала!
Няма яго, схаваўся у зямлі,
А недзе — тамака рака зямлю прарвала,
І воды тэй ракі па лузе пацяклі.

Калісьці, у 1927 годзе, Адам Бабарэка параўнаў лёс вершаў Алеся Гаруна з лёсам ручая. Але тады пра гэта можна было гаварыць толькі ўмоўна, бо ў першае паслякастрычніцкае дзесяцігоддзе

аўтар «Матчынага дару» друкаваўся ў розных выданнях, жыў у свядомасці чытачоў, хоць пакуль што літаратурная крытыка і літаратуразнаўства не надта шмат пісалі пра яго. А ў канцы 20-х гадоў назіраецца новая хваля грамадскай зацікаўленасці спадчынай пісьменніка. Гэты заканамерны і такі зразумелы ўздым папулярнасці Алеся Гаруна садзейнічаў таму, што яго імя захавалася ў памяці пакаленняў на працягу больш чым паўстагоддзя, калі яго творы, здавалася б, былі канчаткова выкрэсленыя з гісторыі нашай літаратуры, культуры, нашага народа. І як далёка Алесь Гарун глядзеў наперад, калі пісаў:

А там... ручайка знік! І мы пуцём каротшым
Пайдзём у зямлю за ім, каб выпласць, як рака.

Сёння творчасць Алеся Гаруна выплывае да нашага чытача шырокай чыстай ракой, што па-новаму, так своеасабліва адлюстравала ў сабе праўду жыцця і імкненняў таго далёкага пакалення, якое, хоць і вобмацкам і не без памылак, але затое бясконца самаахвярна працярэблівала шлях да свабоды і роўнасці, справядлівасці і ўсеагульнага шчасця. Алесь Гарун вельмі істотна дапаўняе Янку Купалу і Якуба Коласа і ў філасофскім асэнсаванні заканамернасцяў гісторыі, і ў мудрым пазнанні таямніц і глыбіняў чалавечай псіхалогіі. Пракладваючы ўласныя шляхі ў літаратуру, ён часта паказваў тое, чаго не маглі паказаць яны.

Алесь Гарун блізкі да Янкі Купалы ўсведамленнем сілы і непераможнасці імкненняў народа шматпакутнай, але няскоранай Беларусі, сваім пачуццём асабістай адказнасці за лёс мільёнаў.

Алесь Гарун блізкі да Якуба Коласа гуманістычным клопатам пра долю простага чалавека-працаўніка, рэалістычным паказам народных пакутаў, гора, «што на ўсякі твар кладзецъ, як плуг, разоры і што ў мільёнах душ разоры правяло».

Як грамадзянін і патрыёт, як прарок нацыянальнага адраджэння, як віртуоз паэтычнай формы Алесь Гарун стаў упоравень з імі. Яго мастацкая інтуіцыя, глыбіня пазнання жыцця дала яго мастацкаму слову магчымасць праpвацца праз «грамаду лет» — «глыбіну гадоў», даць нам нечакана

новае ўяўленне пра пакуты і трывогі, заблуджэнні і ідэалы свайго часу. Хіба ж не прарочымі сталіся ягоныя словы, сказаныя на пачатку стагоддзя, што хаця «ідуць да праўды людзі», але «покуль першы дзень людскога шчасця прыйдзе, мільёны сэрц праткне гароты злой каса»? А хіба ж могуць пакідаць нас абыякавымі словы паэта:

Няма пакуты дзе — няма пазнання,
Душа тагды лагчынамі паўзець,
А што гарчэй, скажы, цяжэй перапаўзання?
А што страшней яшчэ, як вочмі не глядзець.

І якая выпакутаваная праўда ў яго малітве:

Паслухай ноччу, ўдзень, Святы,
Скажы маўчаці звонам,
І сколькі скарг пачуеш Ты!
Зямля азвецца стогнам...!

Праз звоны, малітвы, алілуйшчыну не праб'юцца ні скаргі, ні плач. Хіба ж гэтых слоў не пацвердзіла гісторыя нашага народа?

Галоўны герой твораў Алеся Гаруна — праўда, не падфарбаваная, не падсалоджаная, не прыпудраная, а толькі тая, якая многім вочы коле і якая адна можа збудзіць «святое сумленне» (М. Багдановіч), рваць «духа путы» (А. Гарун).

Алесь Гарун дае сённяшняму пакаленню новыя ўрокі мужнасці і патрыятызму, яшчэ і яшчэ раз паказвае, як трэба берагчы і славіць бацькоўскую зямлю і матчыну мову. Ён выносіць бязлітасны прысуд здрадлівасці, прыстасаванству, сацыяльнай і проста чалавечай няпраўдзе. Сваім мастацкім словам ён, не стамляючыся, будзіў чалавечае сумленне і праведны гнеў. А хіба ж гэтыя якасці не патрэбны нам сёння? Таму мы хочам, павінны і будзем лічыць Алеся Гаруна нашым сучаснікам.

# ЗМЕСТ

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ
Серыя акадэмічная

Научно-популярное издание

**Казберук Владимир Михайлович**

**СВЕТЛОЙ СВОБОДЫ ЗВУЧНЫЙ ЗВОН:**

**АЛЕСЬ ГАРУН**

**Минск: издательство «Навука і тэхніка»**

*На белорусском языке*

Навукова-папулярнае выданне

**Казбярук Уладзімір Міхайлавіч**

**СВЕТЛАЙ ВОЛІ ЗЫЧНЫ ЗВОН:**

**АЛЕСЬ ГАРУН**

Кніга адрэдагавана на грамадскіх асновах сябрам суполкі «Скарыніч» Таварыства беларускай мовы *Н. А. Дашкевіч*

Загадчык рэдакцыі *У. М. Ківатыцкі.* Мастак *Т. П. Кулажэнка.* Мастацкі рэдактар *А. А. Кулажэнка.* Тэхнічны рэдактар *А. У. Скакун.* Карэктар *В. М. Ківерава.*

ІБ № 3811

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 18.07.90. Падпісана ў друк 18.12.90. Фармат 84×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,12+0,78 укл. на мял. пап. Ум. фарб.-адб. 4,1. Ул.-выд. арк. 3,55. Тыраж 5000 экз. Зак. № 1332. Цана 25 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600. Мінск, Жодзінская, 18. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Жодзінская, 18.



НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

*У рэвалюцыю — з эсэрамі*

*«Край чужы — за веру кара»*

*Сібірскія «універсітэты»*

*Повязь з «Нашай Нівай»*

*«Матчын дар»: пакутны шлях да чытача*

*«Вызваль дух свой, рабскі люд!»*

*У віры падзей*

*Няспраўджаныя надзеі*

*Загадка Беларускай вайсковай камісіі*

*Фантастыка і рэальнасць*

*Спрадвечныя таямніцы быцця і кахання*

*Лебядзіная песня паэта*

*У санітарным цягніку — да апошняга прытулку*

*Знаходка Алега Латышонка*

*«Каб выплысць, як рака...»*

**25 к.**